# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ
## Дастойнаму Сьвятарству й ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Народу Беларускага на Бацькаўшчыне й на Чужыне

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ ЯГО ЎСЛАЎЛЯЙЦЕ!



Хрыстос нарадзіўся! Гэта кліч шчырага захапленьня, які выходзіць з вуснаў у кожнага хрысьціяніна, а асабліва ў нашыя часы, калі душа так моцна прагне Хрысьціянскае любові, надзеі на сьветлую будучыню й супакой на зямлі.

Бог Прадвечны нарадзіўся! Гэта радасная вестка прышла з нябёсаў, якая ад Сьвятога Вечара разносіцца ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі, ад места да места, напаўняе душы й сэрцы людзей добрай волі ўцехаю й радасьцю. Запраўды, багаслаўленая ноч Раства Хрыстовага, бо залунаў на зямлі голас Сілаў Нябесных у гэтую Сьветлую Ноч. Дзева нарадзіла Сына, а Сынам гэтым быў Сам Бог, Які з бязьмернаю Сваёю любоўю да нас прыняў людзкое Цела й нарадзіўся, як Чалавек. Нарадзіўся ў беднай пячоры ў бядзе й паніжэньні, той, што стварыў сьвет! Запраўды сталіся дзівы дзіўныя! І ўся прырода затаіла дыханьне, а людзі ўпалі на калені!

Зьвярнем толькі вочы нашыя да Бетлеему. Там зорка зьяе! Там Сьвятло Нябеснае, якое абаграе душы чалавечыя. І ад того часу гэтае Сьвятло Хрыстовае сваімі праменьнямі зьяе ў гэтую Сьвятую ноч, як сьвечка, ці як ялінка й прасьвятляе цемру жыцьця нашага, радуе, вяселіць душы нашыя. У гэты Сьвяты Вечар аблічы нашыя праямняюцца, аб бедах сваіх мы забываемся выбачаем крыўды навет непрыяцялём сваім, пачынаем ўсіх любіць, і сэрцы нашыя напаўняюцца супакоем, зьяўляецца радасьць і надзея на вечны супакой на зямлі.

Так, багаслаўлёная гэтая Ноч, у часе Якой Хрыстос стаўся Сынам Чалавечым, каб мы маглі стацца сынамі Божымі! Бо-ж дзеля таго Хрыстос стаўся слабым Дзіцяткам, каб мы сталіся волатамі, дзеля таго Ён нарадзіўся каб мы сталіся вялікімі, Ён стаўся бедным, каб нас узбагаціць. Ён, як Дзіця плакаў у часе свайго Нараджэньня, каб мы перасталі плакаць, каб жылі ў супакоі й радасьці!

Таму й ня дзіва, што ў гэты дзень неба й зямля радуюцца й весяляцца разам з Ангеламі й натхнёна сьпяваюць: Слава на вышынях Богу, і на зямлі мір людзям добрай волі!

Таму, Дарагія Браты і Сёстры! Духова злучаймася сёньня з сіламі нябёснымі. Слаўма Госпада Бога, Які так палюбіў нас, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў нам. каб кожны, што верыць у Яго не загінуў, але атрымаў жыцьцё вечнае.

Усе прасем Яго, Нованароджанага Хрыста Бога й Спаса нашага, каб сярод усіх нас на Бацькаўшчыне й на выгнаньні запанавала аснова навукі Хрыстовае, каб з паверхні зямлі счэзла цемра людзкое варожасьці, ненавісьці, сваркі й вайны.

Шмат разоў мянялася ўжо аблічча зямлі. На арэну жыцьця прыходзілі й зыходзілі многія народы, падалі найбольшыя зямныя валадары, зьнікалі розныя правадыры, якія часта пакідалі пасьля сябе руіны й горыч у сэрцах людзкіх, а тымчасам радасьць сярод людзей на Раство Хрыстовае па ўсяму сьвету й цяпер магутным рэхам адбіваецца ў песьнях калядных і ў сэрцах людзей добрай волі. Ува ўсіх мовах сьвету славяць народжанага Хрыста добрыя людзі, а ў тым ліку й мы, Беларусы, імкнемся да вышэйшых мэтаў жыцьця й духова хочам злучыцца з Князям Міру, Дабра, Праўды й Свабоды!

Таму Сьвята Раство Хрыстовае й ёсьць Сьвятам Вялікае Надзеі. Хрыстос прыйшоў да нас з Неба як чалавек, каб паказаць нам, што асноваю нашага шчасьлівага жыцьця зьяўляецца згода, супакой, міласэрдзе, любоў, бо праз гэта мы можам злучыцца з Богам, і што толькі такое жыцьцё можа даць нам радасьць і задаваленьне.

Нажаль ня ўсе людзі жадаюць гэткага жыцьця, бо шматлікія палюбілі больш зло, цемру, як дабро, сьвятло й любоў. Аднак кожны год Раство Хрыстовае прыпамінае нам аб Ягонай Навуцы й аб надзеі на лепшую будучыню й таму Раство Хрыстовае павінна быць дарагім і радасным для нас!

І трэба цьвёрда верыць, што прыйдзе чаканы час, і народжаны Хрыстос Бог наш і Айцец будучага веку вывядзе нас з цяперашняе цемры, страху безнадзейнасьці й бязбожжа й накіруе да дабра, сьвятла праўды й да збаўленьня. Дзеля гэтага-ж Хрыстос і прыйшоў на зямлю, каб узмоцніць у нашых душах надзею на Яго, як Усемагутнага Стваральніка, які што хоча, тое можа зрабіць.

Таму мы радасна й вітаем вас з векавечным Сьвятам Раства Хрыстовага і новым 1979 Годам! Сьпяшайцеся да Нованароджанага Хрыста! Сьпяшайцеся аддаваць Яму хвалу ў сваёй роднай БАПЦаркве! Ён будзе заўсёды з Вамі, багасловіць Вас і паможа адрадзіцца да новага шчасьлівага, супакойнага й радаснага жыцьця.

Гэта нашыя пажаданьні ў дзень прыйсьця на зямлю Госпада й Спаса нашага Ісуса Хрыста. Радуймася любыя Браты й Сёстры, бо з намі Бог! Малемся да Яго, каб калядная радасьць напоўніла сэрцы ўсіх людзей, а асабліва нашых Суродзічаў на Беларусі й па ўсім сьвеце разагнаных.

Ласка й супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й лучнасьць Сьвятога Духа, няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і ўсячасна й павек вякоў амін.

*Каляды,*
*Лета Божага 1978.*

*Пакорны ў Богу:*
*+Мітрапаліт Андрэй*
*+Пакорны ў Богу Архіепіскап Мікалай*

# ЮБІЛЕЙНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ СЬВЯШЧЭННАГА САБОРУ ЯПІСКАПАЎ
## Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне

Год 1978 ёсьць юбілейным годам нашае роднае Беларускае Царквы ў дыяспоры, якая 30 год таму адрадзілася ў вольным сьвеце, як гістарычная Царква Беларускага Народу, і, як неадлучная частка Хрыстовае Праваслаўнае Ўсяленскае Царквы.

Пасьля адыходу беларускіх Япіскапаў да Расейскае Зарубежнае Царквы, Беларусы на эміграцыі, пазбаўленыя рэлігійнае апекі, пачалі шукаць шляхоў для аднаўленьня свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якая на працягу стагодзьдзяў адыгрывала вялікую ролю, як у рэлігійным, так і нацыянальным ды палітычным жыцьці нашага народу.

У 1948 годзе Царква была адноўлена. Сёлета споўнілася 30 год яе жыцьця. Кожнаму праваслаўнаму Беларусу належыць падсумаваць дзейнасьць яе на працягу пройдзенага часу, ды ўсьведаміць сваю адказнасьць перад будучынёю. А зрабіўшы падрахунак асягненьняў, мы не павінны безнадзейна глядзець на будучыню, бо прыклад нашае працы сьведчыць, што мы выбралі дарогу, якая ёсьць неабходнаю для нашага народу, як на эміграцыі, так і на Бацькаўшчыне.

Нашыя асягненьні ў рэлігійнай і нацыянальнай галіне сьведчаць, што Бог багаславіў нашую працу й гэта дае нам падставу глядзець з вераю й надзеяй у сьветлую будучыню.

А таму, жывучы ў дыяспоры, (за межамі сваёй Бацькаўшчыны), не сьпяшаймася пераменяць сваё роднае на чужое, бо чужое можа бліш-чэць, але ня грэць. Трэба любіць новую нашую Бацькаўшчыну, але не забывайцеся й свайго краю й свайго народу зь якога паходзім і зь якога кроў цячэ ў нашых жылах. Нашыя Браты й Сёстры на Радзіме зорка глядзяць на нас і маюць надзею, што прыйдзе час сустрэчы з намі.

І калі нехто з нашых Братоў і Сёстраў, забыўся пра тых, што спрычыніліся для аднаўленьня БАПЦарквы, то належыць прыпомніць цяпер і адсьвяткаваць гэты важны юбілей нашае роднае Царквы, каб Ласка Божая заўсёды была з намі й каб каля нашае царквы аб'ядналіся ўсе Праваслаўныя Беларусы на эміграцыі. А таму не забывайцеся ўсячасна славіць Бога й заўсёды дзякавець Яму.

Ласка й Супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й Лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і ўсячасна й павек вякоў. Амін.

*З.Ш.А., 1978 г.*

*+Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй*
*+Пакорны ў Богу Архіяпіскап Мікалай.*

# ПАДЗЯКА

Мітрафорны Пратаірэй а. Янка Абабурка й Матушка Кацярына складаюць як найшчырэйшую падзяку ўсім тым што спрычыніліся купіць падарунак, прыслаць прывітаньні й пажаданьні з нагоды майго юбілею, ды ўсім тым, што былі прысутныя на ўрачыстасьці, а таксама й для тых, што з тое ці йншае прычыны не змаглі прыйсьці, аднак дзякуем сардэчна.

З пашанай,
Міт. Прат. а. Янка Абабурка

# ЮБІЛЕЙ АЙЦА АБАБУРКІ



*Мітр. Прат. а. Янка Абабурка*

Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі зладзіла Юбілей 15-х угодкаў сьвятарства Мітрафорнага Пратаірэя а. Янкі Абабуркі – настаяцеля БАПЦ ў Вялікай Брытаніі, які адбыўся 8-га кастрычніка сёлета ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары.

### Св. Літургія

А 10-ай гадзіне раніцы ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці, была адслужана ўрачыстая Багаслужба, якую ачаліў Мітрафорны Пратаірэй а. Янка Абабурка ў саслужэньні а. Янкі Пекарскага – сьвятара БАПЦ паўдзённых парафіяў у Англіі.

У Царкву зьехаліся людзі амаль з усіх куткоў Ангельшчыны, так што Царква была перапоўнена вернікамі як ніколі. Сьпявала два царкоўныя хоры: адзін з Манчэстару, а другі прыезджы з Нотынгам. Адчуваўся глыбокі малітоўны настрой. На падсьвечніках гарэла многа сьвечак; ля прастолу стаяла вялікая колькасьць натуральных кветак у беларускіх нацыянальных бел-чырвона-белых калёрах. Пры Памятковай табліцы ў памяць Беларускіх Гэрояў ляжыць вянок удзячнасьці з нацыянальным сьцяжком і кветкамі васількоў. Іконкі ўпрыгожаныя вышытымі ручнікамі паводля беларускага народнага ўзору, што сьведчыць колькі ўложана было працы каб гэтым самым паказаць пашану, да свае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Юбіляру Мтр. Прат. а. Абабурку.

Мітрафорны Пратаірэй а. Янка Абабурка служыў сьв. Літургію, апрануты ў новае аблачэньне, купленае вернікамі й прыяцелямі БАПЦ ў гонар нашага Юбіляра.

Пасьля заканчэньня сьв. Літургіі, а. Янка Пекарскі прачытаў Грамату ад Яго Прэасьвяшчэнства Мітрапаліта Андрэя, Першага Герарха БАПЦарквы аб узнагароджаньні Мітраю а. Янку Абабурку.

### Прыняцьцё

Урачыстае прыняцьцё ў гонар Юбіляра Міт. Прт. а. Янкі Абабуркі, адбылося ў царкоўнай залі, Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары. Прысутныя госьці, Прыяцелі й вернікі БАПЦ былі запрошаныя заняць месцы за сталамі, якія былі застаўленыя й запоўненыя рознымі патравамі й закускамі. Да ганаровага стала былі запрошаны: Юбіляр Міт. Прт. а. Янка й матушка Кацярына, сябры Рады БАПЦ, ды прадстаўнікі Рэлінійных і Грамадзкіх арганізацыяў. Адкрыў і кіраваў Імпрэзай Сп. Хведар Кажаневіч, Старшыня Рады БАПЦ ў Вялікай Брытаніі. Сп. Хв. Кажаневіч, пасьля малітвы узьняў тост у гонар Юбіляра, й запрапанаваў прасьпеваць „Многалецьце".

### Прывітаньні й пажаданьні

Сп. Хв. Кажаневіч, Старшыня Парафіяльнай Рады, прывітаў Юбіляра ад сябе й вернікаў, а пасьля прачытаў надасланыя пісьмовыя прывітаньні ад царкоўных і сьвецкіх арганізацыяў: Кансысторыі БАПЦ ў ЗША – Міт. Прт. а. Васіля Кэндыша, Арганізацыі Вольных Казакаў у Англіі, Сп. Дуцька, ад Управы Аддзелу ЗБВБ у Манчэстары Сп. М. Яськавіча й а. Роланда Фрымэна, Настаяцеля Англіканскае Царквы Сьв. Пятра й Паўла ў Прэствіч. З уступною й прывітальнаю прамоваю ад Рады БАПЦ у Вялікай Брытаніі выступіў сакратар яе, Сп, Янка Калбаса. Прамоўца ў кароткіх словах нарысаваў гісторыю царкоўнай і грамадзкай працы Міт. Прат. а. Абабуркі за апошніх 15 гадоў, затрымліваючыся ў сваім дакладзе толькі на галоўных і найбольш важных мамэнтах працы, якія наш Паважаны Юбіляр выканаў на сваім 15-ці годнім жыцьцёвым шляху.

Айцец Абабурка прыняў абавязкі сьвятара БАПЦ 15-га кастрычніка 1963 г. Пятыя ўгодкі, ягонага рукапалажэньня ў Брадфардзе 13-га кастрычніка 1968 году, на якіх, з ласкі Божае, Юбілянт атрымаў найвялікшы падарунак у сваім жыцьці, а мяноўна, паяднаўся са сваёю матушкай Кацярынай, якая прыехала з роднае Беларусі, ды да сяньняшняга часу выконвае з а. Абабуркай адказную работу для БАПЦ.

Дзясятыя ўгодкі ўрачыста сьвяткуем у кастрычніку 1973 г. ў Манчэстары. Тут трэба зацёміць, што радасьць была ня меншая, бо-ж пры дапамозе вернікаў і прыяцеляў Сьв. БАПЦ мы ўжо супольна сьвяткуем у сваёй собскай Царкве, Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары. За гэту й іншую працу, Уладыка Мітрапаліт Андрэй узнагарадзіў Юбіляра залатым Крыжам. Сяньня ўшаноўваючы пятнаццатыя ўгодкі сьвятарскае працы вельмі паважанага й дарагога Міт. Прт. а. Абабуркі мы з гонарам мусім сказаць: „Дзякуем Вам і Вашай Матушцы, за сумленную й адданую працу, за любоў свайго Беларускага Нарду й Бацькаўшчыны Беларусі, за пашану й адданасьць служыць сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве."

Дзякаваць Богу БАПЦ ў Вялікай Брытаніі ёсьць поўнасьцяй прызнана й зарэгістравана праз Урад Ангельскі й маець законнае права выдаваць мэтрыкі шлюбаў і ўсе йншыя дакумэнты. Вось-ж йзноў Вас узнагарадзіў Уладыка Мітрапаліт Андрэй, гэтым разам – „МІТРАЙ".

Дык жадаем Вам і Вашай Матушцы Кацярыне найлепшых посьпехаў у працы, стойкасьці ў жыцьці й здароўя на многія гады! Так закончыў сваё прывітаньне Сп. Янка Калбаса.

Наступна выступіў з прывітаньнем Сп. Янка Міхалюк, Старшыня Галоўнае Управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, які вітаў Юбіляра з угодкамі сьвятарства, павіншаваў з нагоды ўзнагароды Мітраю, ды ад Сэктару Рады БНР у Англіі злажыў падарунак: „Мітру". Старшыня Беларускага Вызвольнага Фронту ў Вялікай Брытаніі, Сп. Янка Бунчук, паза прыгожымі прывітальнымі словамі для Юбіляра, зрабіў заклік да прысутных падтрымоўваць і ацэніваць працу Яго, а таксама заахвочваць маладое пакаленьне да працы, каб будучыня была забяспечаная й цягласьць працы не памерла.

Ад Парафіі БАПЦ ў Бірмінгам вітаў Сп. Міхась Баяроўскі. Сп. Станіслаў Мак злажыў на рукі Міт. Прт. а. Янкі падарунак і прывітаў ад Беларусаў з Брадфорду. У ангельскай мове вітаў а. Ролянд, які сказаў, што а. Янка ёсьць добрым Беларусам, я яшчэ лепшым пастырам навукі Хрыстовае, дык хай дапаманае яму Бог.

### Падзяка

Мітрафорны Пратаярэй а. Янка Абабурка ў сваіх кароткіх, але зьмястоўных словах злажыў падзяку: (у беларускай і ангельскай мовах) Царкоўнай Радзе й вернікам БАПЦ за куплены яму падарунак царкоўнага аблачэньня, Сп. М. Сераму за бязплатнае пашыцьцё аблачэньня, Сэктару Рады БНР за Мітру, Управе Беларускага Грамадзкага Клюбу ў Манчэстары за Фінансавую дапамогу ў ладжаньні прыняцьця,

*(працяг на 14-й бачыны)*

# Пра Стварэньне Сьвету

Космалёгія ўжо даўно студуе космас, яго пачаткі й яго разьвіцьцё. Розныя тэорыі паўсталі аб „стварэньні" космасу, але доўгі час ня было довадаў пацьвердзіць або адкінуць некаторых зь іх. У 1977 годзе адбылася фундамэнтальная зьмена ў нашым разуменьні космасу калі першы раз былі здабытыя довады аб існаваньні касмічнай радыяцыі, якая існуе ў цэлым космасе ад часу яго стварэньня.

Згодна тэорыі, цяпер прынятай амаль што ўсімі космалёгамі, калісь космас быў шмат меньшым у разьмерах. Гэта была мешаніна лёгкай матэрыі й газаў, пераважна вадароду. Таксама як гарачы кавалак жалеза сьвеціцца чырвоным колярам або газавая лямпа дае сьвятло пэўнага коляру, космас сьвяціўся колярам адпаведным да яго тэмпэратуры.

На сваім пачатку, космас, маючы аграмадную масу матэрыі ў малых разьмерах, быў нестабільным і ўрэшце выбухнуў адным вялікім ўзрывам, разкідаючы матэрыю ў ваўсе кірункі. З гэтай матэрыі пазьней паўсталі зоркі й плянэты. Аб старадаўным выбуху ў космасе сьведчыць той факт, што сёньня ўсе зоркі з вялікай скорасьцяй разыходзяцца адна ад другой.

Пасьля выбуху космас пачаў астываць і зрабіўся празрысты. Сьвятло, якім космас сьвяціўся перад выбухам, якое мы называем касмічнай радыяцыяй, выйшло ў простор і рэшткі гэтай радыяцыі існуюць у космасе да сёньняшняга часу. Дзеля розных тэхнічных прычынаў цяжка было пацьвердзіць існаваньне касмічнай родыяцыі. Толькі ў 1977 годзе, падняўшыся самалётам па над 90% зямной атмасфэры. навукоўцы Каліфарнійскага унівэрсытэту першы раз змаглі мераць і студаваць касмічную радыяцыю. Іхнія вынікі паказваюць, што старадаўны касмічны выбух быў вельмі раўнамерны, і першы раз далі магчымасьць даведацца скорасьць зямлі й сонца ў адношаньні да цэласьці космасу.

Застаецца пытаньне, ці разыход зорак і пашырэньне космасу калі спыніцца й ці зоркі вернуцца назад да „цэнтру" космасу адкуль, у форме газаў, яны некалі выйшлі. Адказ залежыць ад сілы гравітацыйнага прыцяганьня космасу ў цэласьці. У выпадку калі гравітацыйныя сілы змогуць стрымаць пашырэньне космасу, космас быў-бы „вечным". Пасьля павароту зорак да цэнтру ўвесь працэс паўтарыўся-б новым выбухам і новым разыходжаньнем матэрыі ў ваўсе кірункі.

У недалёкай будучыні спадзяёмся, што маса космасу будзе ведама дастаткова дакладна каб адказаць на гэтае пытаньне. Пакуль што выглядае, што маса космасу й ягоныя гравітацыйныя сілы будуць недастатковымі каб стрымаць разыходжаньне зорак. У гэтым выпадку космас і стварэньне сьвету здарыліся толькі адзін раз і болей не паўторацца. Гэтая другая магчымасьць была-б бліжэй да Біблійнай гісторыі стварэньня сьвету.

Можна спекуляваць яшчэ ў іншым кірунку. Напрыклад, дзеля нейкай, яшчэ невядомай прычыны, неста-

*(працяг на 9-й бачыны)*

# Інтэрвью з айцом Расьціславам



*Айцец Др. Расьціслаў Войтэнка*

*Айцец Др. Расьціслаў Войтэнка ёсьць сынам, вядомага беларускаму грамадзтву св. памяці а. Др. Віктара й матушкі Марыі. Па заканчэньні пачатковай і сярэдняй школы ў Ню-Джэрзі Стэйт (ваколіцы Рэд Бэнк), студуе ў Радгэрс Унівэрсытэце, а пасьля студуе права ў Ню-Ёрку. Па заканчэньні юрыдычных навукаў атрымлівае стопень Доктара Права (Джурыс Доктар).*

*Ветэран Ветнамскай вайны. У рэзэрве капітан Ам. Збройных Сілаў.*

*Сёньня а. Др. Расьціслаў ёсьць Вікарным Сьвятаром Прыходу Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й адначасна практыкуе права ў Ню-Джэрзі.*

*– Рэдакцыя газэты „Беларускі Час"*

П. А. Доктар! Чым была выклікана Вашая рашучая пастанова рукапалажэньня ў сан Сьвяшчэньніка БАПЦ?

А. Вельмі цікавае пытаньне. Было аж некулькі прычынаў, якія прычыніліся да майго рукапалажэньня ў духоўны сан. Па сьмерці майго бацькі, а. Др. Віктара, я выказаў сваё глыбокае й шчырае жаданьне стацца сьвятаром Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. Гэтак аднак ня сталася, бо я тагды яшчэ ня быў падгатаваны да прыняцьця абавязкаў сьвятарскіх.

П. Айцец Доктар! Якія яшчэ прычыны прыскорылі прыняцьце духоўнага сану?

А. Я любіў царкву, мой дзед, Мітрафорны Пратаірэй а. Сьціпан і мой бацька, а. Віктар – былі духоўнымі. Я быў узгадаваны ў глыбокіх традыцыях і веры БАПЦ.

З другога боку занепад рэлігіі, этыкі й маралі й наагул цывілізацыі ў апошнія часы прыскорыў, ужо даўно насьпеўшую думку, прыняць сьвятарскі сан.

П. Як Вы а. Доктар узіраецеся на рэлігійнае узгадаваньне нашай моладзі?

А. Пытаньне рэлігійнага й духовага ўзгадаваньня беларускай моладзі выклікае ў мяне пачуцьцё глыбокага незадаваленьня. Дзеці, ня знаюць Бога, бо іхнія бацькі выгналі Бога з хатаў сваіх. На вялікае шчасьце, гэта ня ёсьць агульным нашым зьявішчам.

П. Айцец Доктар! Ці ёсьць розьніца паміж правам Божым і правам цывільным?

А. Бязумоўна!

П. Якія аснаўныя прынцыпы адрозьніваюць адно права ад другога?

А. У той час, калі Божае права або jus divinum маець у аснове любоў і прабачэньне, то цывільнае права, наадварот, мае ў сваёй аснове прымус. Адміністрацыйна – праўныя нормы ёсьць функцыяй дзяржаўнай дамоўленасьці, а ў таталітарных краінах функцыяй волі аднэй асобы – дыктатара.

П. Як Вы глядзіце на позытывістычны кірунак права?

А. Позытывізм, які ўжо больш як сто гадоў зьяўляецца асноваю права ў заходнім сьвеце, ёсьць адказным за вялікі занепад хрысьціянскіх традыцый і хрысьціянскай этыкі.

П. Ці ёсьць розьніца паміж рэлігіяй і маральлю?

А. Маральнасьць і рэлігія неразлучныя ў сваім паходжаньні й узросьце. Кант, напрыклад, цьвердзіць, што рэлігія й маральнасьць ідэнтычныя, калі маральныя законы набліжаюцца да Права Божага (jus divinum).

П. Як Вы а. Расьціслаў глядзіце на справу духова-рэлігійнага жыцьця беларусаў у ЗША?

А. Я думаю, што блізу ўся новая нацыянальна-сьведамая эміграцыя ўулючылася да прыходаў БАПЦ або да іншых беларускіх цэркваў.

П. Якая колькасьць праваслаўных беларусаў належыць да расейскіх прыходаў і колькі, прыблізна, беларусаў-каталікоў належыць да каталіцкіх прыходаў?

А. На вялікі жаль, у нас німа дакладнай статыстыкі старое беларускае эміграцыі, так сама як мы ня маем статыстыкі новай эміграцыі. (Да новай эміграцыі залічаюцца асобы, прыбыўшыя да ЗША пасьля заканчэньня другое сусьветнай вайны).

П. Айцец Расьціслаў! Ці справедлівасьць і права Божпе (jus divinum) ідэнтычныя па свайму значэньню?

А. Справедлівасьць і права Божае ня ёсьць дзьве незалежныя асновы. Але справедлівасьць ёсьць выяўленьнем любові, а Бог ёсьць любоў. Таму ідэя справедлівасьці не стаіць на першым мейсцы, у разуменьні навукі Хрыстовай, а на другім!

П. Нам часта кажуць, што нас прыхажанаў Прыходу Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне мала й што мы ня зможам утрымаць сваю царкву. Якая Вашая думка ў гэтаў справе?

А. Гэта зусім няпраўда! Хай нас будзе яшчэ меньш, але гэта, не аслабіць нашай волі да ўтрыманьня Царквы, бо сіла, як кажа Апостал Павел, крыецца ў нашай веры ў Бога, у нашай мужнасьці й ахвярнасьці.

П. Айцец Доктар! Як можна шырэй паясьніць значэньня слоў Апостала Паўла, выказаныя Ім у сваім першым пасланьні (16–13–14) да Карыньцянаў?

А. У першым пасланьні да Карыньцянаў Апостал Павел кажа: „Чувайце, стойце ў веры, будзьце сьмелымі (мужнымі) й цьвёрдымі." „Стаяць у веры" значыць быць вернымі, законам Божым, быць непадзельнымі ў веры, а гэта значыць быць непераможнымі, сільнымі. Усё што робіце, павінны рабіць з любоўю.

П. Айцец Доктар! Пасьля свайго рукапалажэньня ў сан Дыякана БАПЦ ў 1977-м г. у сваім першым

*(працяг на 14-й бачынцы)*

# З ЖАЛОБНАЙ ХРОНІКІ

## +Св. Памяці Даніла Бруцкі-Стэмпкоўскі

2 кастрычніка 1978 г. памёр на Бацькаўшчыне Даніла Бруцкі-Стэмпкоўскі, бацька Інжынера Івана Бруцкага, сябры Парафіі Сьвятога Духа БАПЦ ў Іст Дытроіт, Міч.

У сараковы дзень пасьля яго сьмерці 11 лістапада 1978 ў Царкве Сьвятога Духа была адслужана паніхіда па памёршым, на якой прысутнічалі сябрв Парафіі й многія госьці – землякі памёршага й яго сына з роднага Палесься.

На памінальнай вячэры пасьля паніхіды ўзяў слова Мгр. Васіль Плескач, які даў кароткі агляд жыцьця с.п. Данілы ад найранейшых год яго жыцьця аж да сьмерці.

Жыцьцё памёршага й яго дзейнасьць на рэлігійнай ніве павінны быць прыкладам для ўсіх тых, што прадаўжаюць гэтую дзейнасьць і йдуць шляхам, які пралажыў с.п. Даніла Бруцкі.

С.п. Даніла Бруцкі нарадзіўся ў 1891 г. ў сяле Белавушы, Столінскага раёну; ад наймалодшых сваіх гадоў быў ён вельмі актыўным у справах сваёй парафіі, сьпяваў у хоры й чытаў Апостала ў царкве. Ён быў солтысам сваёй вёскі на працягу 9-ці гадоў, а потым сябрам гміннай рады ў Сталічне.

Бальшавікі залічылі яго кулаком і актывістам у справах рэлігійных і ясная рэч арыштавалі, а пасьля вывезьлі ў Ташкент, Узбэкістан, трымалі яго ў цюрме праз год, пасьля выпусьцілі на волю; будучы польскім грамадзянінам ён прылучыўся да польскай арміі гэнэрала Сікорскага на тэрыторыі Савецкага Саюза. Разам з арміяю ён прабыў адзін год у Тэгэране а потым разам з сем'ямі жаўнераў быў пераведзены у Усходнюю Афрыку, ў Уганду, дзе й прабыў больш 4-х гадоў, хварэючы часта на малярыю.

Сын Данілы Іван у той час быў у Канадзе й ён даведаўшыся аб месцы прабываньня бацькі, сьцягнуў яго ў Канаду ў 1949 г. Тут с.п. Даніла пражыў 20 гадоў у Вінніпэгу, а пасьля ў Монтрэалі.

У 1969 г. Даніла вярнуўся з Канады да дому, да сваіх родных старон і сям'і й там закончыў сваё жыцьцё.

Сына свайго Янку ён выхоўваў у рэлігійным і нацыянальным духу, прышчэпліваючы яму любоў да свайго роднага краю й сваёй рэлігіі, ня гледзячы на розныя перашкоды. І ў гэтым яго вялікая заслуга, яго ўзнагарода пасьля сьмерці за яго непахісныя прынцыпы й падзяка беларускага народу свайму сыну, які пасьвяціў сваё жыцьцё на служэньне Бацькаўшчыне!

Вечная яму памяць!

*– В. П.*

## +Св. Пам. Матрона Сьцяпанаўна Мазуро

12 лістапада 1978, пражыўшы 88 год, адыйшла неспадзявана на той сьвет Матрона Сьцяпанаўна Мазуро, пакінуўшы ў вялікім смутку сына Данілу з жонкаю Кацярынаю, унукам і праўнукамі, сына Юрку з жонкаю Валенцінаю й унукамі, дачку Тацьяну з мужам Міхасём Жылікам з іхняю сям'ёю.

Асабліва цяжка прыняў сьмерць сваёй цешчы Др. Язэп Сажыц, якога жонка, найстарэйшая дачка нябожчыцы Барбара памерла няпоўных чатыры месяцы перад сьмерцю маткі.

Відаць нябожчыцы цяжка было пагадзіцца з перадчаснаю сьмерцю дачкі Барбары, яна вельмі моцна адчувала страту й прыгатоўлівалася да сустрэчы з ёю ў пазагробным жыцьці!

Яшчэ ў суботу вечарам 11-га лістапада была яна на вячэрняй службе ў царкве Сбвятога Духа БАПЦ й на паніхідзе с.п. бацьку Інж. Івана Бруцкага. Назаўтра зрана яе сэрца перастала біцца й яна адыйшла на векі, каб быць разам са сваёю дачкою й мужам Вінцэнтам, які памёр яшчэ на Бацькаўшчыне.

Вечарам 13 лістапада адбылася паніхіда па памёршай у Стараверскай Царкве Сьвятой Тройцы ў Дытроіт, на якой прысутнічалі амаль усе сябры парафіі Сьвятога Духа БАПЦ ў Іст Дытроіт уключна з айцом настаялелям Максімам.

Назаўтра 14 лістапада адбыліся пахавіны на якіх удзельнічалі парафіяне Прыходу Сьвятога Духа й Прыходу Сьвятой Тройцы, многа сяброў і малодшых прыяцеляў памёршай яшчэ з роднай Наваградчыны дзе жыла, працавала й узгадоўвала дзяцей у нацыянальным духу адышоўшая на вечны супачынак с.п. Матрона Мазуро.

На могілках сабралася многа людзей, якія прышлі, каб аддаць апошнюю пашану ахвярнай жанчыне й любячай матцы. Магіла памёршай уся ў прыгожых вянках застанецца тут назаўсёды, далёка ад Бацькаўшчыны, зьяўляючыся сьведкаю горкай долі сыноў і дачок Беларусі, якіх ваенная завіруха занясла далёка ад роднага краю.

Пасьля пахавінаў у залі стараверскай Парафіі Сьвятой Тройцы ад-

*(працяг на 9-й бачынцы)*

*Замест вянка на сьвежую магіту*
*Сьвтл. пам.*
**БАРБАРЫ САЖЫЦ**
*перасылаю 25 дал. на*
**Кансысторыю БАПЦ**
*Мат. Марыя Васілеўская-Войтэнка*

**СЬВЯТОЙ + ПАМЯЦІ**
**МІКАЛАЙ КОБЯКО**

Народжаны 24-га ліпеня 1904 году ў вёцы Басанкі Дзісенскага павету. Разьвітаўся з гэтым сьветам дня 19-га лістапада 1978 году ў штаце Мэйн. Пахаваны дня 21-га лістапада на Парафіяльным Магільніку ў Іст Брансьвіку, Ню Джэрзі, праз што з глыбокім сумам і жалем паведамляюць: жонка Кэттэ, сыны Аўген і Зэнон, дачка Ада, унукі й родныя.

Няхай сьніцца Табе Родная Зямелька!

# 50 Гадоў ад Сьмерці Пётры Крэчэўскага



*Пётра Крэчэўскі*

## ЗАПРОСІНЫ

Гэтым ветліва запрашаем Вас зь сям'ёй і знаёмымі на ўшанаваньне, ладжанае супольна зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, памяці Прэзыдэнта Беларускае Народнае Рэспублікі ПЕТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА з нагоды 50-х угодкаў ад ягонае сьмерці.

Урачыстасьць адбудзецца *ў нядзелю 17 сьнежня* 1978 г. у Беларускім Грамадзкім Цэнтры на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне.

Рэфэрат пра жыцьцё й дзейнасьць П. Крэчэўскага прачытае інж. Мікола Гарошка, старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Прысутныя падзеляцца ўспамінамі пра яго.

Рэфэрат пачнецца а 1-й гадзіне папаўдні, пасьля багаслужбы з паніхідай.

*– Управа Фундацыі*



*Саля ў Студэнскім Доме ў Празе, у якой Пётра Крэчэўскі часта рабіў даклады для беларускіх студэнтаў.*

# Як Чужынцы Глядзяць на Амэрыку

У вачох чужынцаў Амэрыка сяньня ёсьць як быццам бязмускулярным гігантам. Эўропэйская й азіяцкая прэса аднолькава думаюць, што ажыўленьне японскай і нямецкай эканомікі з аднаго боку, а мілітарны ўзрост Савету з другога, прамаўляюць затым, што зьмена ў сэнсе ацэны моцы й лідарства ЗША, сталася фактам непазьбежным.

У прэсе нашых саюзьнікаў і прыхільнікаў адчуваецца несупакой і навет страх, з тэй прычыны, што Амэрыка губляе свой прэстыж і ўплыў на сусьветныя падзеі, дзякуючы сваёй нерашучасьці.

Чужынцаў найбольш турбуюць палітычныя й псыхолёгічныя зьмены, якія паслабілі паложаньне ЗША да іншых краінаў сьвету, дзякуючы праграпай вайне з Ветнамам.

Рапарт японскага Прэсаваго Бюро: „Амэрыканская сіла волі ёсьць сілаю сама ў сабе, бо яна выклікае вельмі сур'ёзныя сумлівы. Для многіх дасьледчыкаў вырашальным фактарам ня ёсьць колькасьць параплаваў або самалётаў, але няпэўнасьць, адносна амэрыканскай адказнасьці ў мілітарным адношаньні."

Аргэнтынскі журналіст, з шырокім дыплёматычным досьледам, кажа: „Раней, мы маглі даверыцца й спадзявацца на ЗША, як на моцнага абаронцу Заходняй Цывілізацыі, а сяньня выглядае, што Амэрыка дапамагае камуністам у Афрыцы й тэрарыстам у Аргэнтыне."

Перапалох і страх шырыцца ў шэрагах нашых саюзьнікаў. Паўстае глыбокае незадаваленьне сяньняшняй эканамічнай палітыкай ЗША.

Вэрдыкт жэнеўскага журналістага: „Падыход Картара да інтэрнацыянальных справаў канфузіць сваіх саюзьнікаў і падзіўляе сваіх ворагаў.

„Лёнданскі Час" гаворыць: "Цяпер Прэзыдэнт ЗША ніколі ня можа быць так пэўным і моцным, як раней. Ветнам і Вотэргэйт зрабілі Прэзыдэнства ЗША іншым."

Паўдзённая Амэрыка вынесла яшчэ больш востры вырак: „ЗША ўжо ніколі ня будуць лідэрам сьвету, таму што Прэзыдэнт ня мае сілы кіраваць сваёю краінай, а кангрэс таксама ня здольны кіраваць Амэрыкай. Нягледзячы на гэткую „Амэрыканскую хваробу" існуе шырокая згода, што недамаганьне ЗША ня ёсьць сталым і трывалым фактарам. Фактычна, яшчэ многія краіны лічаць ЗША сусьветным лідэрам. Адзін Швайцарскі журналісты сказаў: „ЗША ня ёсьць дэкадэнскай нацыяй, бяз дысцыпліны, але ёсьць маладою дзяржавай, якая патрабуе больш часу каб прывесьці свае справы да парадку."

Ясны й нядвухзначны, але супраць легла аптымізм выказвая Масква. Савецкае лідэрства перакананa, што суадносіны сілаў у сьвеце схіляецца на карысьць Савецкага Саюзу. Яны цьвердзяць, што эра амэрыканскай дамінацыі ў сьвеце закончваецца, а савецкай супрэмацыі пачынаецца.

– U.S. News

## З ЖАЛОБНАЙ ХРОНІКІ

*(працяг з 8-й бачынкі)*

быўся памінальны абед, у часе якога блізкі зямляк памёршай Мгр, Васіль Плескач, у ангельскай мове коратка прыпомніў царністую дарогу, якой прыйшлося ісьці с.п. Матроне праз яе доўгае жыцьцё ў цяжкіх абставінах перад вайною й пасьля вайны. Яе скромнае жыцьцё, адданасьць роднаму краю, глыбокая любоў і самапасьвячэньне для сям'і й беларускага рэлігійнага жыцьця заўсёды астанецца ў памяці ўсіх якія яе асабіста знаілі й шанавалі за яе працу для Парафіі Сьвятога Духа.

*11.17.1978* *–В. П.*

### + Св. Памяці Мікалай Кобяко

У нядзелю 19-га лістапада сёлета, пасьля доўгае цяжкое хваробы, адыйшоў у вечнасьць заслужаны рэлігійны й грамадзкі працаўнік Мікалай Кобяко.

Нарадзіўся Мікалай 24-га ліпеня 1904 году ў вёсцы Басанкі Дзісенскага павету ў сям'і заможных бацькоў. Будучы сьведамым беларускім нацыяналістам належаў да беларускіх арганізацыяў: Таварыства Беларускае Школы й Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, прымаючы чынны ўдзел на нарадах і зьездах гэтых арганізацыяў і праводзіў змаганьне за належныя правы чалавека.

Апынуўшыся, ў часе другое сусьветнае вайны, ў Нямеччыне актыўна праводзіў беларускую нацыянальную працу й асаблівую дапамогу аказаў у часе аднаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, займаючы адначасна розныя грамадзкія становішчы.

Пасьля пераезду ў Амэрыку, сьпярша жыў у Клііўляндзе, дзе прыймаў актыўны ўдзел у арганізаваньні й будове царквы Жыровіцкае Божае Маці, а пасьля пераехаў у штат Мэйн.

У панядзелак 20-га лістапада цела яго было самалётам перавезена ў штат Ню Джэрзі, дзе й было пахавана на парафіяльным магільніку ў Іст Брунсьвіку. Заўпакойную службу Божую адпраўляў сьвятар Аляксандар Яноўскі.

Пакойны пакінуў х смутку спадарожніцу свайго жыцьця, двух сыноў, дачку й унукаў.

Сьпі, Дарагі Мікола! Няхай лёгкаю будзе табе Амэрыканская зямелька, а ўспамін аб табе няхай назаўсёды застанецца сярод тых, што Цябе ведалі й з Табою супрацоўнічалі!

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Т.1, А–В, пад агульнай рэдакцыяй акадэміка АН БССР К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы). Выданьне Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, Мінск, 1977, 606 бб. вялікага фармату.*

У магазынах савецкай кнігі ў ЗША зьявіўся ў продажы т.1 нарматыўнага тлумачальнага слоўніка беларускай мовы. Гэта першае такога роду выданьне беларускага слоўніка, падрыхтаванае навуковымі супрацоўнікамі Сэктару лексікалёгіі й лексікаграфіі Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі Навук БССР. Усяго ў ім (у 5 тамах) растлумачана каля 100,000 лексічных і фразэалягічных адзінак сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У т.1 іх – 16,354 словы й 1,062 тэрміналягічныя й фразэалягічныя словазлучэньні.

Слоўнікавыя артыкулы да рэестравага слова даюць граматычную, стылістычную й сэнсавую характарыстыку слова, этымалягічную даведку да яго, прыводзяць ілюстрацыйны матар'ял зь літаратурных крыніцаў і зьвязаныя із словам тэрміналягічныя й фразэалягічныя словазлучэньні.

Калі ня браць на ўвагу недахопаў палітычнага характару, у чым укладальнікі слоўніка непавінныя (перакладныя ў беларускую мову цытаты ў ілюстрацыйным матар'яле з Маркса, Энгельса, Леніна, Брэжнёва й іншых ідэолягаў і кіраўнікоў камунізму пры адначаснай адсутнасьці цытатаў з А. Гаруна, В. Ластоўскага, Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка й г.д., ня кажучы ўжо пра літаратуру эміграцыйную), ды некаторых іншых дробных недахопаў у вадборы слоў і формаў, раскрыцьця поўнага іхнага сэмантычнага абыйма, – слоўнік робіць уражаньне выдатнай публікацыі на высокім навуковым узроўні. Выданьне яго – значная падзея ў беларускай філялёгіі й культуры.

*– А. В.*

## ПРА СТВАРЭНЬНЕ СЬВЕТУ

*(працяг з 7-й бачынкі)*

більнасьць у прасторы вытварыць пару або больш энэргічных частак матэрыі, якія маглі-б размножыцца й пачаць працэс тварэньня космасу.

*– Др. Р. Гарошка*

# Ліст да Рэдакцыі

Прэсавае агенства Ассошіэйтэд Прэсс падала, што з нагоды сваёй каранацыі, нова выбраны папа, кракаўскі кардынал Войтыла, які прыняў, як папа, імя Яна-Паўла Другога, апрача звароту да заходняэўрапэйскіх народаў выдаў таксама адозвы да раду ўсходня-Эўрапэйскіх народаў: да расейскага, польскага, украінскага й летувіскага. Беларусаў папа памінуў. Можна дагадывацца аб прычынах гэтага. Праўдападобна, як Паляк, папа лічыць, што каталікі Беларусы належаць да польскай сфэры ўплываў і як такія палічаць зварот у польскай мове, як зварот да іх.

Маем тут вельмі цікавую зьбежнасьць паміж становішчам папы, а расейска-савецкім становішчам. Тыя таксама Беларусаў каталікоў не прызнаюць і як правіла, у сваіх статыстыках падаюць іх, як палякаў. Пагляды папы Яна-Паўла II на нацыянальныя праблемы ўсходняй Эўропы, ягоныя адозвы вельмі добра выяўляюць, бо Ён піша адозвы да неіснуючых расейскіх каталікоў і памінае існуючых беларускіх каталікоў.

Віленскі передваенны прафэсар ксёндз доктар Балеслаў Віляноўскі быў напісаўшы навуковую працу ў якой давёў, што папеская палітыка зьбягаецца з палітыкай Італіі. За сказаньне праўды ксёндз Віляноўскі быў, зразумела, духоўнымі ўладамі рэпрэсыяваны.

Цяпер, думку ксяндза Віляноўскага можна было-б абагульніць і напісаць працу пра ідэнтычнасьць папскай палітыкі са савецкай палітыкай ягонага народу, а польская нацыянальная палітыка папы Беларусам дабра не нясе.

*– Д. К.*

# „АЙЦЫ” БССР І ІХНЫ ЛЁС

А. КАЛУБОВІЧ

*(Пачатак і працяг у №№13,14 і 15)*

## 2

Калі 1-шы ўрад БССР пераехаў із Смаленска ў Менск, ён заняў на Пляцы Волі будынак царскага губэрнатара й расклеіў па сталіцы свой маніфэст. У маніфэсьце апавяшчалася, што „ад сяго моманту” „Усе законы, пастановы, распарадак і прыказы Рады, яе слух... лічацца не сапраўднымі” (п.4), а „Беларуская Рада з яе так празыванымі"народнымі міністрамі"абвяшчаецца безабаронна законамі” (п.3)[124]. Час паказаў, што „безабаронымі” перад Масквою сталіся ня толькі Рада й Урад БНР, алё й самі „айцы” БССР, аўтары маніфэсту й іхныя пасьлядоўнікі.

Які-ж быў іхны асабісты лёс?

Поўнасьцю адказаць на гэтае пытаньне немажліва: хоць „айцы” БССР і былі лідэрамі беларускага камуністычнага й савецкага руху ў 1917–20-ых гг., інфармацыяў пра іх у савецкім друку мала.

Пра большасьць зь іх няма ніякае літаратуры. Некаторыя — У. Скарынка, В. Майзель, Сосна, Гурыновіч, Лаўрэцкі, Паляцка — згадваюцца толькі ў вадзінкавых гістарычных нарысах 1920-ых гг.[125] Другія — Я. Лагун, А. Квачанюк, І. Няцецкі, А. Усьціловіч, П. Клыш, А. Дзедзя, І. Мазур, В. Ханін, І. Пузыроў, Ф. Балбека, М. Драко-Дракан і інш. — згадваюцца й у БелСЭ[126], але пра іх там, за рэдкімі выключэньнямі, няма асобных артыкулаў; і мы нічога ня ведаем пра іхны лёс, як і пра лёс усіх названых перад імі. А *пра каго ведаем* (пераважна із несавецкіх ці неафіцыйных крыніцаў), *ніхто зь іх не памёр сваёй сьмерцю*[127]: яны, падобна тысячам зь беспартыйнае беларускае інтэлігэнцыі, *былі абвінавачаныя ў беларускім нацыяналізьме й, на загад Масквы, зьнішчаныя.*

У гібелі іхнай павінны перадусім праваднікі расейскага камунізму, якія супрацоўнічалі тварэньню БССР і БКП. Пачатак таго канвэеру сьмерці ў разьвязанай Леніным у 1917–20 гг. хвалі „чырвонага тэрору”. Канец — у сыстэматычных і плянавых акцыях вынішчэньня нацыянальнае эліты нерасейскіх народаў у хвалях тэрору 1930-ых гг., асабіста кіраваных Сталіным.

Скрайнюю заўзятасьць у гэтым апошняга ўжо на прыкладзе г.зв. „Грузінскай справы”[128] заўважыў і нат асудзіў Ленін. Будучы сам, як мы ведаем, не свабодны ад вялікадзяржаўнага шавінізму, у нататках "К вопросу о национальностях или об "автономизации" ён пісаў: "Приняли мы с достаточной заботливостью меры, чтобы действительно защитить инородцев от истинно русского держиморды? Я думаю, что мы этих мер не приняли... Я боюсь, что т. Дзержинский[129], который ездил на Кавказ расследовать дело о "преступлениях"... "социал-националистов" (так Сталін назваў тады грузінскіх камуністых — АК), отличился тут тоже только своим истинно русским настроением (известно, что обрусевшие инородцы всегда пересаливают по части истинно русского настроения). Тот грузин (мова йдзе пра Сталіна — АК), который... пренебрежительно швыряется обвинением в "социал-национализме" (... сам является настоящим и истинным не только "социал-националистом", но и грубым великорусским держимордой)..."[130] Аднак, не зважаючы на такія засьцярогі Леніна, "грубый великорусский держиморда" інсьпіраваў ці арганізоўваў і далей рэпрэсіі супраць "инородцев" і "инородных" "социал-националистов", пазьней пераназваных у „нацыянал-камуністых”.

Першай ахвярай із „айцоў” БССР быў сябра 1-га ўраду БССР, народны камісар нацыянальных спраў, Фабіян Шантыр. Пісьменьнік-адраджэнец, чые апавяданьні й вершы друкаваліся ў „Нашай Ніве”, „Дзяньніцы” й іншых пэрыядычных выданьнях, у сваёй брашуры „Патрэбы нацыянальнага жыцьця для беларусаў і самавызначэньне народу” (1918 г.) марыў „працаваць над адбудовай вольнай бацькаўшчыны Беларусі... Якая гэта вялікая доля для нас!” Ды вось... па выхадзе із Ураду БССР ён мабілізаваны ў Чырвоную армію, дзе ўвесну 1920 г. арыштаваны, абвінавачаны ў нацыянальнай контррэвалюцыі й расстраляны[131].

Сьмерць ягоная была й першай ахвярай бальшавіцкага тэрору ў беларускай літаратуры.

Блізкі сябра У. Ігнатоўскага й М. Чарота, адзін із былых кіраўнікоў падпольнай Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г., а па 2-ім абвешчаньні БССР рэдактар газэты „Савецкая Беларусь” (орган ЦВК БССР) Міхась Маразоўскі (запраўднае прозьвішча — Гурын) у 1924 г. пад прозьвішчам Ханевіча перакідаецца зь Менску ў Заходнюю Беларусь.

Зь ягонае ініцыятывы 30.11.1924 г. у Вільні склікаецца канфэрэнцыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), якая, падобна КП(б)Б, ня была самастойнай беларускай партыяй, а часткаю Камуністычнай работніцкай партыі Польшчы (КПРП). Канфэрэнцыя прымае прапанаваны М. Гурынам курс на „арганізацыйную й палітычную падрыхтоўку да ўзброенага паўстаньня” з мэтаю „аб'яднаньня Заходняй Беларусі з БССР”[132].

М. Гурын выбіраецца ў ЦК КПЗБ і дэлегатам на 3-ці зьезд Камуністычнай партыі Польшчы, які з пастановаю канфэрэнцыі КПЗБ не згаджаецца й яе ўняважняе[133].

Паміж КПЗБ і КПРП паўстае канфлікт. Масква ў ім становіцца на бок КПРП. Яна таксама супраць „узброенага паўстаньня ў Заходняй Беларусі”, якое М. Гурын із КПЗБ „спрабаваў выклікаць у 1925 г.”[134]; дзеля чаго адклікае М. Гурына назад у Менск.

М. Гурын не падпарадкаваўся.

Ён выйшаў із ЦК КПРП і з кантраляванай ёю КПЗБ ды, разам із сябрамі ЦК КПЗБ А. Капуцкім і Л. Родзевічам, заснаваў новую КПЗБ, незалежную ні ад Польскай Камуністычнай партыі, ні ад РКП(б). Гэта была 3-яя (пасьля 1917-19 і 1920 гг.) спроба стварыць самастойную Беларускую Камуністычную партыю.

Былы беларускі пасол польскага сойму В. Рагуля ў сваіх успамінах[135], з падзеяў 1925-28 гг. прыгадвае: М. Гурын „зарганізаваў тайную друкарню, у якой друкаваў свой орган „Чырвоны Сьцяг”[136]. Польскім камуністым гэта прыпала не да смаку. Яны выкрылі яе й, уварваўшыся адной-чы ў друкарню, спалілі ўсе драўляныя часткі, разьбілі чыгунныя і зьнішчылі рэшту. Цераз некаторы час Гурын сам быў арыштаваны й кінуты ў беластоцкую вязьніцу”.

Пасьля таго, як ён выйшаў на волю й спаткаўся з паслом, апошні запрапанаваў яму: „Адмоўся ад камунізму й перайдзі на бок Беларускага Пасольскага Клюбу... Мы перакінем цябе нелегальна ў Нямеччыну. Там ты... станеш на чале нашага Інфармацыйнага Бюро... Ты — зацкаваны воўк, і цябе ўсёроўна забʼюць камуністыя й скінуць на дэфэнзыву, або дэфэнзыва й зваліць на камуністых”.

Маю прапанову ён ня прыняў.

Як я прадбачваў, гэтак і сталася. У Горадні, пасьля гутаркі са мною ў гатэлі „Гаваддлёвы”, ён выйшаў ад мяне каля 11 г. увечары. Я не пасьпеў распранауцца, калі пачуў стук у дзьверы і голас Гурына: „Адчыні!” Ён увайшоў бледны й сказаў: „Я паранены. На вуліцы Пілсудзкага нейкі тып 8 разоў выстраліў у мяне”. Я паклаў яго на сваім ложку, агледзеў рану й выклікаў паліцыйнага лекара... Мяне дапыталі ў якасьці сьведкі, а Гурына забралі ў шпіталь...

Хутка... я даведаўся, што Гурын (16.3.1928 г.[137]) быў застрэлены ў Вільні... Так скончыў закладчык КПЗБ”[138]. А забойца ягоны — С. Клінцэвіч, засуджаны польскім судом на пажыцьцёвую турму, выменены на свабоду ў СССР[139].

У 1930 г., у часе 1-ае ў 30-ых гг. хвалі масавага тэрору ў БССР, ГПУ арыштоўвае цэлую групу беларускіх нацыянал-камуністых, спаміж каторых — трох былых сяброў Ураду БССР:

народнага камісара працы 1-га ўраду БССР — гісторыка й пісьменьніка Язэпа Дылу (Назара Быліваеўскага), які па 2-ім абвешчаньні БССР быў сябрам ЦВК БССР (1921–24 гг.), старшынёю праўленьня Беларускага цэнтральнага саюзу спажывецкіх таварыстваў (1921–23 гг.), старшынёю Дзяржпляну БССР (1923–24 гг.), дырэктарам Інстытуту мастацтвазнаўства Інбелкульту, заступнікам загадчыка Белдзяржкіно (1928–30 гг.);

народнага камісара асьветы БССР (1926–29 гг.) і сябру ЦВК Антона Баліцкага, у 1921–26 гг. — заступніка наркома, фактычнага кіраўніка школьніцтва БССР у 1921–29 гг.; і

народнага камісара земляробства БССР (1924–29 гг.), сябру ЦВК і ЦК КП(б)Б Зьмітра Прышчэпава.

Яны, актыўныя творцы 1-ае й 2-ое БССР, былі далучаныя да арыштаваных у тым-жа часе былых дзеячоў БНР, выдатных беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў, працаўнікоў асьветы й мастацтва, абвінавачаных у прыналежнасьці да няіснуючай „контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі Саюзу Вызваленьня Беларусі” (СВБ), і, разам з усімі імі, увесну 1931 г. бяз суда былі засуджаныя: Я. Дыла — на 5 гадоў ссылкі ў ваддаленыя раёны РСФСР, а А. Баліцкі й З. Прышчэпаў — на 10 год канцэнтрацыйных лягероў.

А. Баліцкі ў 1935 г. памёр у лягеры пры станцыі Мядзьвежая Гара Мурманскай чыгункі, дзе ён з рыдлёўкаю ў руках капаў Беламорска-Балтыцкі канал імя Сталіна[140]. Пра лёс З. Прышчэпава сьведчыць у сваіх успамінах былы вязень Салавецкіх канцэнтрацыйных лягероў, украінец С. Підгайны, які спаткаў яго „на самім востраве, на камандыроўцы Філімонава, у 1937 г.”[141] Із Салаўкоў ён не вярнуўся.

Заснавальнік і кіраўнік Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г., актыўны ўдзельнік 2-га абвешчаньня БССР, Усевалад Ігнатоўскі, былы выкладчык гісторыі ў Віленскім Настаўніцкім (ад 1914 г.) і Менскім Пэдагагічным Інстытутах, у БССР быў сябрам ураду (народным камісарам земляробства ў 1920–21 і асьветы ў 1921–26 гг.), прафэсарам гісторыі Беларусі ў Беларускім Дзяржаўным унівэрсытэце, аўтарам шматлікіх навуковых працаў (і папулярнага „Кароткага нарысу гісторыі Беларусі”, 1919 г.), старшынёю Інстытуту Беларускае Культуры — прэзыдэнтам Беларускай Акадэміі Навук (1925 — пач. 1931 гг.).

Не зважаючы на ўсё гэта, у 1930 г., калі было арыштавана шмат ягоных сяброў — дзеячоў беларускай навукі, асьветы й мастацтва — У. Ігнатоўскага абвінавачваюць у „нацыянал-апартунізьме”. Супраць яго ў афіцыйнай прэсе ўзьнімаецца акцыя ачарненьня й цкаваньня. Урэшце, яго самога змушаюць выступіць у друку з пакаянным лістом, у якім-бы ён сам публічна асудзіў і апаганіў сябе й сваіх сяброў, што пакутавалі ў камэрах ГПУ.

„... Перажыткамі "адраджэнства", — пісаў ён, — якія засталіся ў мяне ад эсэраўска-грамадаўскага мінулага... маім нацыянал-апартунізмам у тэорыі і на практыцы; незалежна ад таго, хацеў я ці не хацеў... я зрабіўся, па правільнай фармулёўцы т. Гея[142], "нацыянал-дэмакратам з партбілетам у кішэні"... Зусім правільна пленум ЦК КП(б)Б (25.10.1930 г.[143] — АК) пастанавіў вывесьці мяне са складу Бюро ЦК і ЦВК і перадаў справу аб далейшым маім знаходжаньні ў партыі ў ЦВК, дзе яна разьбіраецца. Як ні балюча, як ні цяжка гэта для мяне, але перад ЦК КП(б)Б і перад усёй партыяй я цьвёрда павінен прызнаць, што палітычна я зрабіў зраду перад партыяй, хоць і не хацеў зрабіць гэтага суб'ектыўна...”[144]

Не дапамагло й гэта. У студзені 1931 г. яго выключаюць з партыі й здымаюць із становішча прэзыдэнта Беларускай Акадэміі навук. Пачынаюць выклікаць на допыты ў ГПУ й патрабаваць, каб ён згадзіўся на ролю правакатара ў дачыненьні да арыштаваных сяброў, якім інкрымінуецца ўжо згаданая „контррэвалюцыйная нацыянал-дэмакратычная арганізацыя СВБ”.

Перад ім такая прапазыцыя была зроблена Янку Купалу. Яго таксама выклікалі ў ГПУ й змушалі „прызнацца”, што ён быццам-бы ўзначальваў СВБ. Я. Купала на прапазыцыю ГПУ адказаў спробаю самагубства: аднае начы ў канцы лістападу, вярнуўшыся з ГПУ дадому, ён распароў сабе нажом жывот. Лепей сьмерць, чымся роля нягодніка.

Ад сьмерці Я. Купалу адратавалі. У вадведзіны да яго прыехаў У. Ігнатоўскі.

— Табе трэба жыць, Янка... трэба жыць. Ты ў нас адзін, — суцяшаў ён паэту.[145]

І вось цяпер, калі Я. Купала із ранамі ляжаў у цяжкім стане, ГПУ вырашыла змусіць на гэтую ролю праф. У. Ігнатоўскага. Ад яго вымагаюць выступіць на публічным працэсе ў характары „кіраўніка” гэтай „арганізацыі”.

 



Пра фінал разьвязкі „жонка Ігнатоўскага расказвала:

... У тое раньне (4.2.1931 г.[146] – АК) ён чуўся страшэнна знэрваваным і змучаным допытамі ГПУ. Прыйшоўшы да яе на кухню, ён пачаў гаварыць, што ніколі ня згодзіцца на тое, што яму прапануюць. Ён прасіў, каб яна ня вельмі сумавала, калі зь ім што здарыцца...

– Ці-ж я буду горшая за іншыя жонкі? Куды вышлюць цябе, туды й я. Гэта-ж нам з табою не пяршыня, – яна ўспомніла першую, царскую ссылку Ігнатоўскага. – Што людзям – тое й нам.

Прафэсар пяшчотна пацалаваў жонку й пайшоў да сябе ў габінэт.

Хутка пачуўся адтуль стрэл.

Ігнатоўскі ляжаў у крыві, бяз памяці, але яшчэ дыхаў. Жонка кінулася да тэлефону выклікаць хуткую дапамогу. Але раней, чымся хуткая дапамога, у дзьвярах зьявіўся агэнт ГПУ. Сэрца жанчыны ня вытрывала. Яна кінулася на яго й пачала выпіхаць із свае кватэры:

– Я цябе ня клікала, кат! Прыбег цешыцца? Вон адгэтуль!

Але ня зь ейнай сілай было выпіхнуць ненавіснага ката з кватэры. Ды й па сходах падымалася яшчэ двох...

Хуткая дапамога пасьпела шмат пазьней ад спрытных агэнтаў ГПУ. Яны засталіся й пасьля бесьперапынна дзяжурылі ў доме. Відаць, іх непакоіла думка, што можа выбухнуць дэманстрацыя: яны ведалі, што У. Ігнатоўскага высока паважалі й горача любілі. Дзеля гэтага, абвесьціўшы спачатку, што пахаваньне адбудзецца а 2-ой гадзіне" вызначанага дня, „яны загадалі выносіць цела ўжо а 10-ай гадз. раніцы.

Па бакавых брудных вуліцах Менску, амаль бягучы, пранесьлі труну... І калі пазьней пачалі прыходзіць людзі, прыносіць вянкі – усё было даўно скончана"[147]

Для большага расейскага кантролю над БССР (у дадатак да практыкі прызначэньня з Масквы 1-ых сакратароў ЦК КП(б)Б – паўнамоцных эмісараў Крамля й запраўдных уладароў БССР) Масква адных „айцоў" БССР пачала адклікаць із БССР у РСФСР: 5.5.1927 г. яна адклікала старшыню СНК БССР Я. Адамовіча – на становішча дырэктара цукратрэсту ў Маскве[148]. Другіх, на ейныя вымогі, звальнялі із высокіх і ўплывовых становішчаў, але пакідалі ў БССР: у жнівені 1927 г. быў звольнены із становішча сакратара ЦВК БССР З. Чарнушэвіч; увосені 1929 г. із становішчаў дырэктара Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва й рэдактара час. „Полымя" – З. Жылуновіч (Ц. Гартны); із становішча галоўнага рэдактара цэнтральнай газэты „Савецкая Беларусь" – М. Кудзелька (Чарот); у студзені 1931 г. із становішча народнага камісара юстыцыі – А. Сташэўскі[149].

На месцы адкліканых і звольненых як правіла прызначаліся небеларусы (пераважна расейцы), або Масква пачала вышукоўваць на гэтыя становішчы сярод беларускіх камуністых самых паслухмяных і вернападданых сабе кар'ерыстых.

Урэшце, у 1936–38 гг. 3-яя ў 30-ых гг. хваля тэрору ў БССР змыла з паверхні БССР усіх яшчэ жывых „айцоў" БССР. Яны былі абвінавачаныя па колькіх асобных справах, хоць сутнасьць абвінавачаньня была адна й тая-ж: тайная антысавецкая змова з мэтаю адарваць БССР ад СССР, зьлківідаваць у ёй савецкую ўладу ды ўстанавіць „буржуазна-капіталістычны лад".

Памятую асабіста, як у прэсе, на сходах і мітынгах яны былі абвешчаныя „ворагамі народу, пралезшымі ў партыю". Іх „прарабатывалі" за тое, што ў 1917–20 гг. яны прабавалі тварыць асобную й незалежную ад РКП(б) Беларускую Камуністычную партыю; а пазьней, стаўшыся „верхаводамі беларускіх нацыяналістых", „агэнтамі" ці „шпіёнамі" „замежных разьведак", тварылі розныя „контррэвалюцыйныя арганізацыі", выкрытыя „слаўным НКВД".

У арыштах іхных паўтарылася гістарычная храналёгія: арышты пачаліся ў 1936 г. ад ініцыятараў тварэньня 1-ае БССР – былых сяброў 1-га ўраду БССР і іхных бліжэйшых супрацоўнікаў, сяброў Беларускіх сэкцыяў РКП(б); а закончыліся ў 1937 г. на іхных пасьлядоўніках – творцах 2-ое БССР.

Нікога зь іх ня судзіў суд. Справы вяло НКВД. Яно-ж, на загады згары[150], і вырашала іхны лёс: выносіла прысуды й "приводило их в исполнение".

Пра лёс З. Жылуновіча ( Цішкі Гартнага ), старшыні 1-га ўраду БССР, ёсьць цэлая літаратура. Прывядзем зь яе толькі адно сьведчаньне – з кнігі ўспамінаў Масея Сяднёва „Ахвяры бальшавізму"[151].

23.10.1936 г. аўтар (тады студэнт 4-га курсу Менскага Пэдагагічнага інстытуту) быў арыштаваны НКВД. На першым допыце яму было прачытанае абвінавачваньне: "Вы обвиняетесь в принадлежности к контрреволюционной нацдемовской организации, целью которой было отторжение Белоруссии от СССР, чтобы сделать ее буржуазно-демократической республикой типа Латвии, Литвы и Эстонии"...

„Сьледчы далей з гіроніяй зазначыў, што "идейный вождь" гэтай арганізацыі – "ваш знаменитый писатель" Цішка Гартны...[152]

Аднойчы, як звычайна, мяне ад сьледчага вялі да камэры. У вузкім калідоры нечакана я сустрэўся з Цішкам Гартным, якога вялі на допыт. Ад зьдзіўленьня я спыніўся, чаго, зразумела, рабіць было нельга... Я крыкнуў:

– Добры дзень, дзядзька Гартны!

– Молчать! – крыкнуў праваднічы. – Кто он вам? – І паставіў мяне тварам да сьцяны. Я стаяў да тых пор, пакуль ня змоўклі крокі Цішкі Гартнага.

Праз 10 хвілін пасьля гэтага мяне вельмі ганялі на паўторным допыце:

–Откуда знаете Гартного?–пытаўся сьледчы...

– Я ведаю яго як беларускага пісьменьніка – і ня больш гэтага.

– Гм-м "белорусского"... А лично знакомы?

– Не, – адказаў я...

У камэры я доўга думаў над тым, як сталася, што арыштавалі Цішку Гартнага? У маіх вачох Ц. Гартны быў чалавекам, якога нельга было, здаецца, арыштаваць наагул...

Хутка я апынуўся ў камэры, дзе былі Цішка Гартны і Сымон Баранавых. Я вельмі абрадаваўся гэтаму... меў з кім гутарыць.

Цішка Гартны гаварыў, што...ідзе зьнішчэньне ўсяго беларускага... зьнішчэньне духовага жыцьця народу, больш таго – ідзе яго фізычнае зьнішчэньне... Робіцца ўсё... каб ня даць нам жыць, як народу. Дзеля гэтага й „створана" сягодня органамі НКВД нацдэмаўская арганізацыя. Сяброў гэтай арганізацыі будуць цяжка абвінавачваць у дзяржаўнай зрадзе. Нікому з нас ня будзе літасьці...

Кожны дзень прыносіў нячуваныя навіны... Арыштаваныя народны камісар земляробства Бэнэк, народны камісар асьветы Чарнушэвіч, галоўнакамандуючы Беларускай вайсковай акругай Убарэвіч... паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак... пісьменьнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч і г.д. Турма набівалася біткам.

На допыты цягаюць дзень і ноч, і б'юць"[153].

„...Ц. Гартны звар'яцеў. Вяртаючыся із допытаў, ён хаваўся пад лаўку й ціха, спалохана шаптаў: „Божа мой!.. Я хацеў забіць Сталіна?"[154]

„Праходзіць цэлы год... Я атрымліваю, нарэшце, "обвинительное заключение"... (Зь яго) вынікае, што кіраўнікамі арганізацыі зьяўляюцца „ворагі народу" – Цішка Гартны, Зарэцкі, Чарот і Дудар.

У гэты час Гартнага ў жывых ужо ня было. Ён памёр (11.4.1937 г.[155]) у Магілёўскім Доме вар'ятаў"[156], куды яго перавезьлі з турмы менскага НКВД.

Праз 2 месяцы пасьля трагічнай сьмерці Ц. Гартнага склікаецца 16-ты зьезд КП(б)Б. Адбываецца ён у Доме ўраду ў Менску. На ім тагачасны 1-шы сакратар ЦК В. Шарангович вельмі востра асуджае й абвінавачвае ня толькі арыштаваных незадоўга перад тым старшыню СНК БССР М. Галадзеда, народнага камісара асьветы А. Чарнушэвіча й іншых кіраўнікоў БССР[157], але, разам зь імі, і прысутнага на зьезьдзе Алеся Чарвякова[158], народнага камісара асьветы 1-га ўраду БССР, нязьменнага ад 1920 г. старшыню ЦВК і Прэзыдыюму ЦВК БССР, сябру ЦБ і ЦККП(б)Б. Ня было ніякага сумніву, што чарга сталінскай гільятыны тэрору дайшла да яго. Зьезд толькі фармальна павінен заклеймiць яго „ворагам народу".

У часе аднаго із перапынкаў А. Чарвякоў ідзе ў свой габінэт, замыкае на ключ із сярэдзіны дзьверы й стрэлам з рэвальвэра ў сэрца канчае самагубствам. Калі дзьверы габінэту былі ўзламаныя, яго знайшлі мёртвым... на сваім урадавым крэсьле.

Гэта было 16.6.1937 г.[159]

Назаўтра ўпоўдзень (пра сьмерць А. Чарвякова публічна яшчэ нічога ня было ведама) я йшоў Савецкай вуліцай у кірунку тэатральнага сквэра. Выпадкам із рэдакцыі газэты „Звязда" выходзіць мой добры знаёмы, паэта Р. К., які працуе там за стыльрэдактара. Пад вялікім сакрэтам ён расказвае мне, што, калі чарговы нумар газэты ўжо быў аддрукаваны поўным тыражом, уначы пазванілі із Дому ўраду, загадалі цэлы тыраж затрымаць, а ў газэту на апошняй, 4-ай, балоне пэтытам набраць паведамленьне з аднаго сказу: „Учора пакончыў самагубствам старшыня ЦВК СССР і БССР А. Р. Чарвякоў". Калі газэта (із спазьненьнем!) была аддрукаваная нанова, а экспэдыцыя сьпяшалася пакаваць яе на рассылку, із Дому ўраду пазванілі ізноў. Загадалі затрымаць і гэты тыраж, цалкам яго зьнішчыць, а ў паведамленьне пра самагубства А. Чарвякова ўставіць словы: „ ... на глебе сямейных непаразуменьняў".

Пра лёс сяброў 1-га ўраду БССР У. Фальскага, А. Квачанюка й І. Пузырова мы ня маем ніякіх інфармацыяў. Зьмітро Чарнушэвіч, былы народны камісар сацыяльнага забясьпечаньня, пазьней сябра ЦВК БССР (1919, 1921–31 гг.), сакратар ягонага Прэзыдыюму (1924–27 гг.) і старшыня Упраўленьня дзяржаўнага страхаваньня БССР, 28.6.1938 г.[160] расстраляны НКВД у Менску. Такі-ж лёс 30.10.1937 г.[161] спаткаў і Янку Пятровіча (Нёманскага), пісьменьніка й эканамістага, былога сябру петраградзкай і маскоўскай Беларускіх сэкцыяў РКП(б), супрацоўніка Белнацкому й сурэдактара газ. „Дзяньніца". У часе арышту ён займаў становішчы заступніка старшыні Дзяржпляну БССР і дырэктара Інстытуту эканомікі Акадэміі Навук.

22.4.1937 г.[162] у вадным із вагонаў цягніка, які йшоў із Уладзівастока на Маскву, застрэліўся пасажыр. Наўрад ці хто із ехаўшых тым цягніком ведаў, што страляўшы ў сябе – былы старшыня СНК БССР Язэп Адамовіч.

Відны беларускі камуністы Я. Адамовіч, хоць і не належаў да Беларускіх сэкцыяў РКП(б), на 6-ай Паўночна-Заходняй абласной канфэрэнцыі РКП(б) (тады вайсковы камісар Смаленскай губ.) галасаваў за абвешчаньне БССР. У 1920 г., будучы сябрам Вайскова-Рэвалюцыйнага Камітэту Менскай губ., разам з А. Чарвяковым, У. Ігнатоўскім і інш., падпісаў дэклярацыю пра 2-ое абвешчаньне БССР, у якой займаў становішчы народнага камісара вайсковых спраў (1920 г.), заступніка старшыні ЦВК і СНК (1921–24 гг.), а ад 1924г. – старшыні СНК.

Пасьля адкліканьня яго ў 1927 г. із БССР у Маскву ён працуе там у цукратрэсьце. „У цяжкім 1932 г.,– прыгадвае ягоная жонка С. Шамардзіна, – над... галавой Адамовіча "грымнуў гром". Ён быў незаслужана зьняты з пасады (і, паводля вусных пераказаў, арыштаваны – АК). Але Язэп Аляксандравіч не ўхапіўся за "выратавальныя кругі", якія яму пакідалі тыя, хто быў сьведкам "расправы з Адамовічам". Ён нікога не пацягнуў за сабой, але не падумаў і пра зьмякчэньне свайго асабістага лёсу". З дапамогаю сяброў яму ўдаецца ўхіліцца ад большае кары, ды цяпер яго ўжо „накіроўваюць ува Усурыйск... будаваць на Далёкім Усходзе цукровы завод...

Аднак і на Далёкім Усходзе Адамовіч ня траціў сувязі зь Беларусьсю. Выпісваў беларускія газэты, сустракаўся із старымі беларусамі, якіх партыя накіроўвала на самую далёкую ўскраіну СССР... з І. Васілевічам[163]... Ува Усурыйск да Адамовіча прыяжджаў Б. С. Гарбачоў[164], калі па вайсковых справах бываў у Хабараўску і Ўладзівастоку.

Апошні пэрыяд свайго жыцьця Язэп Адамовіч правёў на Камчатцы, куды з амаль пабудаванага цукровага заводу ўва Усурыйску (у 1936 г.[165]–АК) яго накіравалі начальнікам АКО[166]" [167].

І вось у часе, калі найбольш шалеў тэрор і шматлікіх ягоных сяброў ужо каталі ў засьценках НКВД, Я. Адамовіча з Камчаткі выклікаюць у Маскву. Відаць, у падарожным роздуме ён прыходзіць да перакананьня, што сам, добраахвотна едзе ў пашчу НКВД. Дык ці ня лепей тады згінуць ад свае рукі?

Астатнімі із „айцоў" 2-ое БССР (наколькі гэта ведама сёньня) да канвэеру сьмерці падвялі былых бліжэйшых сяброў і памочнікаў У. Ігнатоўскага ў тварэньні падпольнай Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г. –

рэктара Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Язэпа Каранеўскага;

 

першага сакратара ЦВК і СНК БССР (1921–24 гг.), народнага камісара юстыцыі (1928-30 гг.) Алеся Сташэўскага; і

„пачынальніка пралетарскай беларускай паэзіі", ініцыятара й старшыню літаратурнай арганізацыі „Маладняк" (1923–27 гг.), рэдактара газэты „Савецкая Беларусь" (1925 – 29 гг.) Міхася Чарота (Кудзельку).

Я. Каранеўскага пасьля засуду ў канцэнтрацыйны лягер, у кан. 1937 г. прывезьлі ў васобны камэнданцкі лягер сталіцы Байкала-Амурскіх лягероў – г. Свабодны (!). Разам зь ім у партыі вязьняў зь Менску быў і нацыянал-камуністы з 1919 г. С. Гарбуз[168]. На трэці дзень із Свабоднага іх пагналі на „закрытую" калёну №66[169], дзе сьлед іхны гіне. А. Сташэўскага й М. Чарота пасьля доўгіх катаваньняў расстралялі. Першага – 11.12.1938 г.[170], другога – тры дні пазьней, 14.12.1938 г.[171]

Беларускі паэта Мікола Хведаровіч, які ў тым часе таксама сядзеў у менскім НКВД, сьведчыць, што ў 1939 г., калі яго перавялі ў вадзіночную камэру, у каторай перад расстрэлам сядзеў М. Чарот, ён знайшоў там „тэкст апошняга чаротаўскага верша... выкалупаны нечым вострым на сьцяне. Гадамі... захоўваў... у сэрцы" яго, каб некалі апублікаваць. Развітваючыся з жыцьцём, у гэтым вершы „Прысяга" М. Чарот пісаў:

...Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне зацiснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары,
Кажу вам: я не вінаваты.
Паверце: я не вінаваты![172]

... Якая гіронія лёсу! „Бацька" „айцоў" БССР, Казімер Пятрусевіч – адзін із 9 дэлегатаў 1-га зьезду РСДРП (зьезду, каторы адбыўся ў 1898 г. у Менску й арганізацыйна даў пачатак гэтай партыі), беларус і зямляк З. Жылуновіча, Ф. Шантыра, А. Сташэўскага, абодвых Чарнушэвічаў[173] – на шмат год перажыў усіх іх, пазьнейшых спадкаемцаў РСДРП, першатворцаў БССР, не далучыўшыся (як і ніводзін із дэлегатаў 1-га зьезду!) ні да бальшавіцкае фракцыі РСДРП і РКП(б) і ня прызнаўшы ні СССР, ні БССР (!!). Перажыў, мажліва, толькі таму, што пасьля перамогі бельшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі й акупацыі Чырвонай арміяй БНР уцёк замежы. У 1928 г., будучы віленскім адвакатам (і прафэсарам Віленскага ўнівэрсытэту), на „Працэсе 56" бараніў кіраўнікоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (як і ў 1908 г. на судзе ў Менску – Я. Коласа й ягоных сяброў із Беларускага Настаўніцкага Саюзу[174]). Перажыў... пад „фашысцкімі рэжымамі" Польшчы й Нямеччыны, а ў канцы 2-ой сусьветнай вайны, калі „вызваленая" Вільня настала адыйшла да СССР, падаўся далей на захад і ў 1949 г. памёр у Варшаве сваёй сьмерцю[175].

У 1969 г. зь вялікай помпаю сьвяткавалася 50-цігодзьдзе БССР. Тады яшчэ быў жывы Язэп Дыла.

Ужо было па 20-ым і 22-ім зьездах КПСС, якія „асудзілі" „культ Сталіна". Былі абвешчаныя „адліга" й „рэгабілітацыі"... Вы думаеце, па Я. Дылу паслалі самалёт? Каб прывезьці на юбілейныя ўрачыстасьці ганаровага госьця – адзінага, хто застаўся яшчэ ў жывых із сяброў 1-га ўраду БССР? І ня блізка!

Менск гарэў ад чырвані сьцягоў. Грымелі аркестры. Янычарам Масквы раздаваліся ардэны... А дзесь далёка, на глухой ускраіне чужога Саратава, самотна дажываў свой век (яму было каля 89) апошні „айцец" БССР. Ён пражыў там яшчэ да 1973 г. і на 42-ім годзе ссылкі із БССР памёр[176].

---

[124]) Тэкст маніфэсту цытуецца з арыгіналу, клішэ якога апублікавана ў альбоме „Янка Купала. Жыццё і творчасьць", Міністэрства асветы БССР, Мінск, 1959, б.89.

[125]) Паза СССР паўтораныя ў публікацыі: Н. Недасек. Камунізм і „беларускі нацыяналізм" – Запісы Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва, кн.1, Мюнхэн, 1962.

[126]) Т.2, бб.230,243,260 і інш. З. Жылуновіч і Я. Лагун – яшчэ й у „Очерках"..., бб.347,350.

[127]) З гэтага нам ведама толькі адно выключэньне: сьмерць ад хваробы былога сябры ЦК БКА, а ў БССР рэдактара газэты „Савецкая Беларусь" і сакратара ЦБ КП(б)Б С. Булата, які не дажыў да часу, калі пачалася расправа над ягонымі сябрамі, памёршы ў 1921 г.

[128]) У 1922 г., калі тварыўся СССР, ЦК РКП(б) праектам „аўтанамізацыі" (улучэньня ўсіх нерасейскіх савецкіх рэспублік у склад РСФСР) вырашыў адабраць ад іх фікцыйны статус іхнай „дзяржаўнай незалежнасьці". Праект выклікаў супраціў з боку камуністых гэтых рэспублік: яны жадалі канфэдэрацыі з РСФСР, а не фэдэрацыі. 16.9.1922г. праект быў адкінуты ЦБ КП(б)Б, 3.10.1922 г. – ЦК КП(б) Украіны, і г.д.

Найбольш рашуча супраць маскоўскага праекту выступіў ЦК КП(б) Грузіі. 15.9.1922 г. ён вынес пастанову: „Прапанаванае на аснове тэзаў таварыша Сталіна аб'яднаньне ў форме аўтанамізацыі *незалежных рэспублік* уважаць за перадчаснае". „Аб'яднаньне гаспадарчых высілкаў і агульнай палітыкі ўважаць за неабходнае, але *із захаваньнем усіх атрыбутаў незалежнасьці*" (падкрэсьленьні ЦК КП(б) Грузіі) (А. Авторханов. Технология власти, Франкфурт на Майне, 1976, б.365). Пазыцыя гэтая грузінскіх камуністых і была галоўнай прычынай карных рэпрэсіяў супраць іх.

[129]) Тады кіраўнік гольксшто рэарганізаванага з ВЧК ГПУ.

[130]) В. И. Ленин. Полное собрание сочинений, изд.5, Москва, 1958–65 гг., т.45, бб.357–359.

[131]) М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літэратуры, выд.2, Вільня, 1921, б.206.

[132]) БелСЭ, т.4, бб.276–277.

[133]) Там-жа, б.277

[134]) БелСЭ, т.10, б.157.

[135]) Васіль Рагуля. Успаміны, Ню Ёрк, 1957.

[136]) Паводля БелСЭ, т.10, б.157, іншы орган ЦК КПЗБ – газ. „Бальшавік".

[137]) БелСЭ, т.6, 1972 г., б.28.

[138]) Рагуля, бб.66–70. Пазьней, будучы зманеныя ў БССР і арыштаваныя ў 1934 г., загінулі таксама А. Капуцкі й Л. Родзевіч: першы – у 1935, а другі – у 1937 гг.

[139]) БелСЭ, там-жа.

[140]) Такое паведамленьне атрымала жонка ягоная, лекар Аддзяленьня скураных хваробаў менскага Клінічнага Гарадка. Сама яна ў рос пачы атруцілася.

[141]) С. Підгайний. Недостріляні, ч.1, Видавництво "Україна", 1949, б.115.

[142]) К. Гей – навапрысланы ў 1930 г. з Масквы для разгрому „беларускага нацыяналізму" 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б.

[143]) БелСЭ, т.2, б.507.

[144]) Ліст апублікаваны ў газ. „Зьвязда". Тут цытуецца паводля перадруку ў час. „Камуністычнае выхаваньне", Менск, 1930 г., №12, б.34.

[145]) Іна Рытар. На суд гісторыі - час. „Конадні", №7, New York - München, 1963, бб.119–120.

[146]) БелСЭ, т.5, 1972 г., б.44.

[147]) Б. Еўтух. Менск у 1930–1931 гг. – газ. „Раніца", Бэрлін, №54/216 за 13.12.1944 г.

[148]) Таксама іншых беларускіх камуністых: 25.10.1930 г. 2-га сакратара ЦК КП(б)Б Я. Васілевіча – у апарат наркамзема СССР; 1.2.1932 г. рэктара Камуністычнага ўнівэрсытэту ў Менску й загадчыка аддзелаў друку, культуры й прапаганды ЦК КП(б)Б у 1928–31 гг. (был. народнага камісара аховы здароўя БССР у 1921–22 гг.) А. Сянькевіча – у сыстэму наркамата аховы здароўя РСФСР. У 1933 г., калі ў БССР пачалася 2-ая ў 30-ых гг. хваля масавага тэрору, із БССР у РСФСР былі адкліканыя народны камісар асьветы А. Платун, народны камісар земляробства П. Рачыцкі, народны камісар лёгкай прамысловасьці Р. Грысевіч і шмат іншых. Усіх іх праз колькі год у РСФСР паарыштоўвалі й, праўдападобна, парасстрэльвалі.

[149]) Як і згадваныя ўжо, перад арыштам: 31.8.1929 г. – А. Баліцкі, 14.9.1929 г. – З. Прышчэпаў, у студзені 1931 г. – У. Ігнатоўскі.

[150]) Тэрорам 1936–38 гг. у БССР асабіста кіравалі сябры Палітбюро Г. Малянкоў і М. Яжоў.

[151]) Выданьне Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, 1944 г.

[152]) Б.4.

[153]) Бб.14–16.

[154]) Б.5.

[155]) БелСЭ, т.3, 1971 г., б.367. Усе іншыя дакладныя даты сьмерці таксама зьвераныя ці ўзятыя зь БелСЭ.

[156]) Сяднёў, б.16.

[157]) Мікола Галадзед 21.6.1937 г. забіўся насьмерць, кінуўшыся галавою ўніз у пралёт паміж сходамі, калі яго ў НКВД вялі на чарговы допыт. Алесь Чарнушэвіч 2.8.1938 г. расстраляны.

[158]) Даклад В. Шаранговіча 16-му зьезду КП(б)Б быў апублікаваны ў прэсе й хутка пасьля таго выдадзены асобнай брашурай.

[159]) БелСЭ, т.11, 1974 г., б.186.

[160]) Там-жа, б.197.

[161]) Там-жа, т.7, 1973 г., б.495.

[162]) Там-жа, т.1, 1969 г., б.91.

[163]) Янка Васілевіч у 1919 г. – заступнік народнага камісара харчаваньня ЛітБелу, у 1925 – народны камісар гандлю БССР, у 1926 – фінансаў. Па адкліканьні яго із БССР у Маскву ў 1934 г. быў прызначаны ў сельска-гаспадарчы аддзел Далёка-Ўсходняга Краю. Расстраляны 29.12.1938 г.

[164]) Камкор Барыс Гарбачоў – камандуючы войск Забайкальскай вайсковай акругі, у 1917–20 гг. актыўны ўдзельнік устанаўленьня савецкае ўлады ў Беларусі. 3.7.1937 г. расстраляны па справе маршала М. Тухачэўскага.

[165]) БелСЭ, т.1, б.91.

[166]) АКО – рыбапрамысловае Акцыянэрнае Камчацкае Таварыства.

[167]) Соф'я Шамардзіна. Старонкі з біяграфіі Язэпа Адамовіча – Полымя, 1966 г., №4, б.127.

[168]) Сьцяпан Гарбуз – былы сябра ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР. У 1921–23 гг. – на кіруючых становішчах ува ўстановах Наркамасьветы БССР, кіраўнік спраў ЦБ КП(б)Б. У 1925–26 гг. – сакратар Акруговага Камітэту КП(б)Б толькішто далучанай да БССР Клімавіцкай (Калінінскай) акругі, у 1928–29 – на падпольнай працы ў Заходняй Беларусі (сябра ЦК КПЗБ), скуль у 1930 г. адкліканы ў Маскву.

[169]) Яўхім Кіпель. Байкала-Амурская магістраль – БАМ (газ. „Беларус", Ню-Ёрк, 1977 г., №246).

[170]) БелСЭ, т.10, б.67.

[171]) Там-жа, т.11, б.202.

[172]) Зборнік „Дзень паэзіі", Мінск,1965г.,б.151.

Як і па ўсяму СССР, у завіруce тэрору 1936–38 гг. пацярпелі й тыя беларускія камуністыя, што стараліся трымацца „гэнэральнай лініі" Крамля – М. Стакун, 7.7.1937 г. заступіўшы А. Чарвякова на становішчы старшыні ЦВК БССР, а 13.11.1937 г. зводьнены й арыштаваны; Д. Ваўковіч, 2-гі сакратар ЦК КП(б)Б у 1934–37 гг., 30.5.1937 г. заступіўшы М. Галадзеда на становішчы старшыні СНК БССР, 8.9.1937г. зводьнены й арыштаваны; З. Кавальчук, старшыня Цэнтральнага Савету Прафэсійных Саюзаў БССР у 1932–37 гг., увесну 1937 г. арыштаваны; камандарм Е.Убарэвіч, камандуючы войск Беларускай вайсковай акругі, 11.6.1937 г. расстраляны; і шмат іншых, а ў тым і сам В. Шаранговіч, адзіны да таго беларус у ролі 1-га сакратара ЦК КП(б)Б, арыштаваны 29.7.1937 г.

5.3.1938 г. маскоўская „Правда" публікуе ягоныя „паказаньні" на судовым спэктаклі „Антысавецкага права-трацкісцкага блёку" ў Маскве:

„Старшыня суда Ульрых: Падсудны Шаранговіч, ці пацьвярджаеце вы вашыя прызнаньні, якія вы зрабілі ў часе папярэдняга сьледзтва?

Шаранговіч: Цалкам пацьвярджаю... У нацыянал-фашысцкую арганізацыю мяне завэрбаваў Галадзед і Чарнушэвіч... Асноўныя мэты нацыянал-фашысцкай арганізацыі Беларусі Галадзед коратка фармуляваў так: ліквідацыя савецкай улады й аднаўленьне капіталізму, адлучэньне Беларусі ад Савецкага Саюзу ў выпадку вайны з фашысцкімі дзяржавамі..."

Гэтага было досыць, каб В. Шаранговіча расстралялі. БелСЭ, т.11, б.295, падае й дату – 13.3.1938 г. Тут хіба можна яшчэ выказаць здогад: гінучы самі, М. Галадзед і А. Чарнушэвіч маглі пацягнуць за сабою й В. Шаранговіча, „завэрбаваўшы" яго на допытах у „сваю арганізацыю" – насіў воўк, хай панясуць і ваўка!

[173]) К. Пятрусевіч паходзіць із с. Душава (Навіны) з-пад Капыля – Полымя, 1968 г., №8, б.249.

[174]) Я. Колас. Цені мінулага – Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, Мінск, 1957 г., б.8.

[175]) Полымя, там-жа, бб.249-250.

[176]) Газ. „Літаратура і Мастацтва" (Мінск, №15/2646 за 13.4.1973 г.) падае дакладную дату сьмерці – 7.4.1973 г.

---

## НОВЫЯ КНІГІ

*(працяг з 5-й бачынкі)*

3. Пакаянны Вялікі Канон Св. Андрэя Крыцкага й Канон пра укрыжаваньне й плач Прэсьвятое Багародзіцы. Друк коштам Сямьі Лук'янчыкаў. Выданьне Кансысторыі БАПЦ на чужыне, Кліўленд, 1978. Printed by Nikolas Prusky.

4. ФАКТЫ И МЫСЛИ, Сьнежань 1978, №4, Тэматыка Часапісу: „Расея без калёній".

# УРАЧЫСТАСЬЦЬ У САДЗЕ

Я. ЮХНАВЕЦ

*(працяг з 14-га нумару)*

САМУК ( сам-сабе). А вось сынок, дзесьці сядзіць у маёй хаце, і слухае ейныя гутаркі. Ах які я дурны! І дурням не заўсёды падвода па дарозе!

ЖУРНАЛІСТЫ (ідучы на спатканьне з Самуком). Зайздрошчу!.. Люблю лета, і вось лета, поўна лета ў сялібе, із садам, навокал. Я – бабруйскі, з гэтай самай рэспублікі, але ваша мясцовасьць падабаецца найлепш: бары, сады, пушча.

САМУК (вітаецца з ім) Тады здароўся, сынок... Вас можна назваць сынам?

ЖУРНАЛІСТЫ Калі ласка! Мне 24, а з іх тры гады ў вашым раёне жыву.

САМУК Не жаніўся яшчэ?

ЖУРНАЛІСТЫ Не яшчэ.

САМУК Жаніся. Тут дзеўкі не бабруйскія, а беларускія.

ЖУРНАЛІСТЫ Дзякую! (шчыра ўсьміхаецца; да Яніны). Я з вамі знаёмы раней: дабрыдзень!

ЯНІНА (абыякава) Але, але! Дабрыдзень! (усе ідуць да стала ў садзе)

САМУК Сядайце, калі ласка. Яніна на свой пень, а я на крэсла, (да журналістага). А вы на ўслон каля стала, пісаць будзе ляпей. (усе сядаюць) Пра што будзеце пытацца ў гэтым годзе – напэўна тое самае?

ЖУРНАЛІСТЫ Магчыма ўспомнім што ўспаміналася.

САМУК Я ўжо машчанін. Пра заўтрашні дзень турбуюся.

ЖУРНАЛІСТЫ Ня трэба быць Салтыкоўскім піскаром.

САМУК (ня бяз зьдзіўленьня) Ня вучы, сынок, самі поўныя і мудротай і жыцьцём. (устае з крэсла, ходзіць). ...Вось хутка вечар. У нас, як нідзе, бываюць прыгожыя вечары. (паўза) Мой паважаны журналісты, як толькі я ўстаў з крэсла, мне падумалася пра адно прыгожая месца. (Яніна прычэсвае даланёй валасы некалькі раз) Паміж мястэчкам і нашай вёскай, ёсьць палявая дарога, яна кудысьці цягнецца, у лес... я ведаю у які лес... яна ўежджаная, і нават, аж да лесу, без калюгаў. Будучы хлапчуком-вучням мне карціла прайсьціся па ёй. За вельмі ўразьлівая гэта дарога, з аднаго боку, нівы із збажынай, а з другога, палявая лаза і амшары. У часе апошняй вайны я хацеў прайсьціся па ёй і гукнуць рэха – рэха вясной, ды яшчэ раніцай. (Яніна ўстае, ціхотна складае раўней даміно на стале) Але пад маёй камандай жывыя людзі былі, (паўза кароткая), і дарога не стратагічная. (Яніна сядае зноў) Тая дарога, бы нарошні, уежджаная. Хто па ёй ходзіць і езьдзіць? Я хацеў зьнішчыць тую дарогу, калючым цэранам...

ЯНІНА Самук, не жартуй...

САМУК (наўцемна) Валей, скажы з хлапцом.

ЖУРНАЛІСТЫ (на ўвеце) Мроі нас хвалюць, і клічуць да чагосьці.

САМУК (азіраецца на сялібу, цяпер ён спакмечвае ў вакне сына, яно расчыненая; Самук павайсковаму прывітаў яго, сын памахаў яму рукой, Яніна пазірае ў бок сялібы, на ейным абліччы спакметная радасьць; журналісты спраўляецца азірнуць усіх; Самук да журналістага) Пра мяне вы шмат нойдзеце ў мінулых выданьнях, з іх і напішыце тое самая: г е р о й, адважны чалавек, але мроі сваёй ня зьдзейсьніў. Па палявой, уежджанай дарозе ён цяпер можа прайсьціся з цяжкасьцяй, адна нага не свая, другая сто разоў прастрэленая... бадай скардзіцца: навошта мяне пакінулі з няжывой нагой?

ЖУРНАЛІСТЫ Я напагатове прайсьціся з вамі па тэй дарозе. Жадаеце?

САМУК (цяжка ступае некалькі крокаў, сядае ў крэсла; Яніна памагае яму сесьці) Так, так. (самбурна) Але ня мучайце мяне ўжо вядомым. (паўза; журналісты ледзь-ледзь зрухнуўся на сваім месцы) За ўсё страшней Айчына. Айчына можа зрабіць з цябе гэроя, што напагатове пакласьці галаву за ейная існаваньня, і-і-і... потым яшчэ: дурная, паслухмянага мніха дзяржаўнаму закону; і нарэшце, самая нешчасная: батраком, тулягам, вар'ятам зробіць... (паўза) Ах, не! Ня будзем гутарыць пра гэта. Чыя небудзь праўдзівасьць творыць крыўду сабе й іншым.

ЖУРНАЛІСТЫ Я шаную вашы выказаньні. Але я, дазвольце, распытаць у вас як вы абараняллі падступы да Бярэзінскай пушчы?

САМУК (устае, падыходзіць да журналістага) Мне сяньня не да гэтага. Я магу сказаць вам праўду, а не патрыятычную хлусьню. Ніхто з Беларускіх мастакоў не намаляваў Напалеон адступае праз Бярозіну, навакол шчыз сьнегу, і лесу. І вось, на дзіва, сьнег растае, лес зелянее... (паўза; блізу павучальна) Перапішы з мінулага выданьня раённай газэты.

ЯНІНА (да журналістага, калі Самук устае з крэсла, хуткта тыцкае пальцамі ў свае калены, па руху ейных вуснаў, бачна, яна кажа журналістаму: – Баляць! Пакіньце яго! – Паказвае спрытна на Самука.)

ЖУРНАЛІСТЫ (бярэ партфэль, ідзе да Самука; Самук азіраецца на яго) Дзякую вам!.. Я вельмі рады, што памятаю ваша змаганьня за Айчыну...

САМУК (урыўна) Час каб памятаць, ужо каторы год тору адно і тое.

ЖУРНАЛІСТЫ (усьміхаецца, на ягоным абліччы настрой дзеля ўласнага жаданьня) Але я, таксама, захоплены прыгаствам вашых мясьцінаў... Як тут да возера дайсьці, пакупацца?

ЯНІНА (захопна, і міла) Ад сялібы нашай сьцежка, аж да ўзьбярэжжа, вядзе.

*(Журналісты разьвітваецца, у яго скратная спачуваньне Самуку)*

САМУК (калі журналісты, адыйшоў) Яшчэ-ж увечары сябры ўрачыставаць прыдуць. Зноў прамовы, вітаньні... (ледзь, ступіўшы, у бок сялібы) Што, яна ня выйшла з дому?

ЯНІНА Не.

САМУК Неўзабаве, із саду ў хату перяжджаю – зіма блізка.

ЯНІНА (бярэ Самука пад руку) Мой любы! Як справедна, калі ты жартуеш. (паўза; абое глядзяць у бок сялібы) Але яна і засядзелася.

## ДЗЕЯ 3–Я

*(У садзе. Бражова-азяровы небакрай, ад левага боку – захад сонца. Возера ў воддалі ўсё ў вячорных колярох нябёсаў. Каля ліпы па раней-шаму стаіць стол на якім шашкі, й даміно, і пасярэдзіне, ў крышталёвай вазе, прасконак садовыу красак.)*

ЯНІНА (У вячорнай сукні, ўваходзіць пад руку з Самуком). Я люблю дарогу за садам. Адно выйсьці на гэтую дарогу, і ты пачынаеш удыхваць водар усяго, што існуе, жыве навокал нас. (сядае на калодку, Самук у крэсла). А пра тое, я і цяпер, вельмі часта ўспамінаю, (бярэ левай рукой за вачныя яміны і працягвае даланей па ілбе), і прабую сама уторыць, каб усёткі зразумець, чаму тады, я адчувала сябе мізэрным, недалужлівым паўзуном... Фу-у! Не магу – дрыжакі бяруць!

САМУК (слухаў яе апусьціўшы галаву – перабіраў пальцы). Стане, Яня, успамінаць. У мяне сяньня ўспамінаў больш чым трэба.

ЯНІНА Таму што выпала гэтак. (сьмехатліва). Гадаўшчына сканчэньня вайны, і тваёго гэройства ў тылу немцаў... і сам віновен: жонцы былай дазволіў наведаць нашыя мясьціны.

САМУК (бязкрыўдна, разьвеўшы рукамі; з кароткім позіркам на сялібу). Цэлы дзень нічога цікавага ад цябе не пачуў: у с п а м і н ы, і былая ж о н к а. А вы ўсе былыя мне. Але таго першага адчуваньня кахаць яе, я не магу адчуць зноў, усёткі, яно памятаецца мне міла й люботна. (паўза кароткая). Здаецца ці не пачынаю я любіць і выбіраць у буднях тое, чаго праз адчуваньне і ўражаньні не дастае ў маім жыцьці.

ЯНІНА (сьціпла). Познаму або што, або нічога – раса пры дарозе.

САМУК (нахінуўшыся да Яніны). Думай як хочаш. Аднак свае адчуваньні я асуджаю найбольш, усё іншае благое, для мяне, я магу перамагчы благім. Благой работай маіх рук, ды розумам. А розум асабліва будзе добрым толькі для мяне... (адхінаецца). Вось няхай-бы малайчына-журналісты і напісаў пра гэта.

ЯНІНА Любы, ня трэба паказваць свае адчуваньні іншым.

САМУК (палымянна). Хочаш сказаць: лепш паказвай для мяне?.. Але грэшнаму лішні грэх, бы апошняя жменя пад сярпом жнеі! Чаму-ж не сказала: свае пачуцьці перад іншымі толькі дурань паказвае?

ЯНІНА Навошта – я шаную цябе? (жартаўліва). Не скажу гэтак калі ажанюся з табой.

САМУК (азіраецца на сялібу). Калі-ж яна разьвітаецца? (Тарас адчыняе весьніцу ў сад). Вунь Тарас ідзе, можа пасьлаць яго даведацца: ці хочуць есьці яны?

ЯНІНА (пахопна ўстае). Забылася сказаць табе пра Тарасавы клопаты. Дазволь яму на іншую службу паступіць – ня будзь памешчыкам.

САМУК Я нічога ня ведаю. (Тарас бліжэй).

ЯНІНА (ня моцна). Ён хоча ў заказьнік паляўнічым-сцыкам наняцца.

ТАРАС Добры вечар!

САМУК (падыходзіць да яго). Тарас, я ўсё ведаю: ідзі на іншую працу, я спраўлюся сам. Ты быў добры памочнік мой і ў часе вайны, і пасьля вайны – не забуду цябе.

ТАРАС Дзякую Самук Іванавіч.

САМУК (зьдзіўлена). Мяне ніхто ня клікаў гэтак, і майго бацьку таксама, дык і ты ня клікай. (дакорліва да Яніны). Не памешчык – я, і не гэрой. Наканаваньня іншая... Тарас, ты – гэрой!.. Характарыстыку пра цябе самую лепшую прышлю, і келіх віна выпем, убачымся яшчэ, у нашым сяле адна вуліца толькі. Бывай, дружа, па зброі!

ТАРАС Дзякую! Вельмі дзякую! (удзячны позірк на Яніну; адыходзіць).

ЯНІНА (калі Тарас пакінуў іх). Слаўны чалавек ён.

САМУК (бязуважны да Яніны; азіраецца на сялібу). Шкадую, што дазволіў ёй прыехаць. Забыўся пра запросіны ў госьці маіх сяброў. Як добра, што яны крыху пазьней прыедуць... (пахопна). Яніна, мы-ж не падрыхтавалі прыкуску.

ЯНІНА Я паруплілася пра гэта, нарыхтавала ў маім доме, прынясу, не далёка. (паўза). Усе твае ўрачыстасьці й здарэньні на маіх вачах.

САМУК Дзякую! Ты заўсёды ўважная й рупная. (нахінуўшыся да Яніны). Ты ня шмат сказала мне пра яе.

ЯНІНА Здаровая... патаўсьцелая... трымаецца моды ў адзеньні. (праменна). Уся яна таясамая, як ты кажаш: вальс хоць на якім інструмэнце грай, тым самым вальсам застаецца.

САМУК А дзеці, ад другога ёсьць?

ЯНІНА Кажа што двое нарадзілася. (Самук памалу ходзіць на ўсьцяжку каля стала). І вельмі радая, што ім у анкетах пытальных ня трэба пісаць: нарадзіліся ў вёсцы Забродцах, Менскай вобласьці, а ў Ленінградзе. Шкадую што мужу прыходзіцца ўпамінаць пра яе: нарадзілася ў вёсцы Крычаны... А потым, яна хваліцца: ейны муж да інтэлігэнтнай касты належыць, і нарадзіўся не дзе небудзь, а ў старым Пскове.

САМУК (дацемліва). Да новай грамадзянскай касты – вось як думаю. (садзіцца каля стала).

ЯНІНА Магчыма. Пра ўсё гэта, яна гаворыць з нэрвовым пафасам-пагардай. (насьмешлівым тонам). Асабліва, кажа яна, я шкадую Ўладзімера. Яго трэба выцягнуць з мясьцін дзе адны мядзьведзі водзяцца, ах як я, шкадую, (пакручвае грудзьмі), што нарадзілася ў вёсцы, што жыла сярод балот і камароў.

САМУК Яна адчувае шчасьлівай... Павер, я рад, што яна шчасьлівая.

ЯНІНА Яе ня звочыце!.. (глядзіць у залю). Хыалілася, якія сукні апранае. Што ўсе ейныя клопаты, гэта: як кажны месяц па моднаму апрануцца, і больш чутка аддавацца мужу, бо ён усё для яе робіць...

САМУК (урыўна). Як доўга яна будзе тут.

ЯНІНА (з вывучальным позіркам). Казала, што ад першае часіны прыезду сюды, адчувае ня прыемна. Нават магілы бацькоў ёй не па сабе

*(працяг будзе)*

# Стратэгія Захаваньня

Нядаўна выйшла з друку кніга вядомага англійскага палітычнага дасьледчыка й стратэгіста Спадара Бріана Крозье „Стратэгія захаваньня" (Strategy of Survival).

Сп. Бріан Крозье ўважае, што Заходні Сьвет траціць, як ён называе, 3-ю Сусьветную Вайну. Пры іншых умовінах яшчэ можна-б было не дапусьціць да пройгрышу вайны, але сілы супраціву з боку Заходняга блёку вельмі малыя.

Згодна Сп. Крозье сяньня мы знаходзімся пасярэдзіне 3-й Сусьветнай вайны, у той час, калі многія нават ня ведаюць аб гэтым.

Трэцяя Сусьветная вайна ўжо распачалася ў 1944-м годзе Саветамі, збройнай акцыяй супраць грэцкай флёты ў Александрыі. Пасьля гэтага Саветы арганізоўвалі скоардынаваныя паўстаньні ў іншых мейсцах, але заўсёды на чужых тэрыторыях. У гэткі спосаб Масква зьнішчыла сувэрэннасьць: Пальшчы, Чэхаславакіі, Вэнгрыі, Румыніі, Аўстрыі, Баўгарыі й іншых.

Дзякуючы інтэрвэнцыі Англіі й ЗША ўдалося выратаваць ад Савецкай акупацыі Грэцыю, а крыху пазьней Аўстрыю.

Другая фаза Трэцяй Сусьветнай вайны распачынаецца саветызацыяй Кубы. Камуністычная акцыя супраць Партугаліі й Чылі закончылася для Саветаў поўным правалам, але ім лёгка ўдалося акупаваць Анголу й Мозамбік. Цяпер Масква распачала сільную акцыю супраць Радэзыі й ейнага новага ўраду.

Крозье гаворыць, што Саветы добра разумеюць запраўднае значэньне дэтанта. У іхнім (савецкім) разуменьні дэтант – вайна, якую камуністыя завуць „мірам". Пагляд Брэжнёва на Свабодны сьвет застаўся такі самы, які быў пры Леніне: поўнае зьнішчэньне й падпарадкаваньне савецка-маскоўскай кантролі ўсіх краінаў сьвету.

Нягледзячы на тое, што ЗША й рэшта Заходніх дзяржаваў праграюць Трэцюю Сусьветную вайну, нягледзячы на тое, што змаганьне адбываецца не на Савецкай тэрыторыі, Крозье ня верыць, што пройгрыш ёсьць непазьбежны.

Ён кажа, што магчыма, пры добрай волі, атрымаць над ворагам перамогу й зьнішчыць савецкую таталітарную сыстэму, не распачынаючы нават 4-й Сусьветнай вайны.

Заходні сьвет маўчыць і дабравольна робіць тэрыторыяльныя ўступкі на карысьць Саветаў. Крозье гаворыць, што ў першую чаргу, кожды народ павінен ведаць, што мы сягодня знаходзімся ў стадыі 3-й Сусьветнай вайны з Саветамі, а таму ўсякія суадносіны паміж Саветамі й ЗША ёсьць небясьпечнай ілюзіяй.

Крозье ў сваёй працы „Стратэгія захаваньня" падае некаторыя канкрэтныя думкі для атрыманьня рашучай перамогі над галоўным ворагам Савецкім Саюзам.

Загрожаныя краіны сьвету, уключаючы сюды й ЗША, павінны пазбыцца ў сябе дома савецкіх агэнтаў, пазбыцца інфільтрацыі прапагандных ідэяў у рабочыя саюзы, амэрыканскія ўнівэрсытэты й іншыя навуковыя ўстановы.

Сп. Крозье цьвердзіць, што Савецкі Саюз мае многа недамаганьняў на шляху свайго гаспадарча-палітычнага жыцьця, якія павінны быць выкарыстаны.

Прапаганда ЗША павінна быць больш рэальнай і больш адкрытай у адносінах да сваіх ворагаў.

Савецкая эканоміка – слабая. Экспорт тэхнолёгіі да Савецкага Саюзу павінен быць стрыманы безадкладна.

Амэрыканская прапаганда павінна павярнуць затрачаны давер да вялікіх дэмакратычных прынцыпаў свабоды, часткова загубленых, дзякуючы інтэнсыўнай марксіскай прапагандзе.

Вызваленьчыя ідэі былых грамадзян Нацыянальных рэспублікаў СССР патрэба выкарыстаць для барацьбы супраць савецкага агрэсара.

Супрацоўніцтва паміж ЗША й Кітаем павінна быць выкарыстана супраць Савецкага Саюзу.

CIA, FBI і NATO трэба ўзмоцніць. NATO павінна пашырыць свае географічныя межы ды ахапаць усю тэрыторыю Заходняга Сьвету.

Калі аналіз Сп. Брыяна Крозье – правідловы, тагды СССР быў і застаецца цяпер у стадыюм бязпрыкладнай вайны, мэтаю якое – зьнішчэньне ўсяго некамуністычнага Сьвету. А гэта – вайна з цэлым сьветам.

*– К.*

## ЮБІЛЕЙ АЙЦА АБАБУРКІ

*(працяг з 7-й бачынкі)*

жанчынам парахвіянкам, за прыгатаваньне смачнае ежы й абслугу, ўсім прамоўцам, ды тым хто пераслаў яму прывітаньні з нагоды Ягонага Юбілею. Дзеля гэтага а. Абабурка папрасіў прысутных устаць ды ўшанаваць: Уладыкаў і сьвятароў БАПЦ, вернікаў і прыяцеляў, ды ўвесь народ наш тут і на Бацькаўшчыне на Многія Лета.

На заканчэньне Сп. Янка Калбаса выказаў найшчырэйшую падзяку ўсім падпісчыкам і ахвярадаўцам за такую паважную суму грошай, якую зьлажылі для куплі падарунку Юбіляру, ды працавітым нашым парафіянкам за абслугу й прыгатаваньне прыняцьця. Шчырае беларуска-праваслаўнае дзякуй!

*– Янка Крушына*

## ІНТЭРВЬЮ З АЙЦОМ РАСЬЦІСЛАВАМ

*(працяг з 8-й бачынкі)*

слове да вернікаў, Вы выказалі ўпэўненасьць, што Вашае рукапалажэньне ў духоўны сан будзе мець вялікае значэньне для БАПЦ, бо спрычыніцца да амалоджаньня й прадоўжаньня жыцьця Беларускай Царквы наагул.

А. У бесканечным трываньні Божым, творчы элемэнт замены, аднаўленьня, амалоджаньня ў вечным працэсе жыцьця, даець мне права думаць, што на маю долю выпала роля лучніка паміж старэйшай й новай гэнэрацыяй герархаў Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы.

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ і ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*
*ўсім падпішчыкам, журналістым, знаёмым і ўсім беларусам*
*шчыра жадае*
*РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ „ЧАС"*

З Каляднымі Сьвятамі й Новым Годам
Высокадастойных Уладыкаў Нашых
Мітрапаліта АНДРЭЯ, Архіяпіскапа МІКАЛАЯ,
Пачэснае Сьвятарства, Царкоўны Клер БАПЦ
і Увесь Беларускі Народ
*шчыра вітае*
Парафіяльная Рада й Сястрыцтва Сабору Св. Кірылы Тураўскага

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ
ЎСІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ І ЗНАЁМЫМ, ЖАДАЕ
М. ГАРОШКА З СЯМЬЁЮ

З Каляднымі Сьвятамі й Новым Годам
Дастойнага Мітр. Прат. а. Васіля Кэндыша
шчыра вітае:
Парафіяльная Рада й Сястрыцтва Сабору Св. Кірылы Тураўскага

*З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ*
*Вікарнага Сьвятара а. Др. Расьціслава Войтэнка*
*шчыра вітае*
*Парафіяльная Рада й Сястрыцтва Сабору Св. Кірылы Тураўскага*

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ
ЎСІМ РОДНЫМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ І ЗНАЁМЫМ
*шчыра жадаюць*
МІКОЛА, ГАННА Й ЛЯВОН ВОЙТЭНКІ

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*
*ЎСІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ І ЗНАЁМЫМ ШЧЫРА ЖАДАЕ*
*ДР. УЛАДЗІМЕР НАБАГЕЗ З СЯМЬЁЮ*

Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага Году
ўсім родным і знаёмым шчыра жадае
Др. Юзік Сажыц з Сямьёю

З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ
ДАСТОЙНАГА ПРАТ. а. КАРПА
ШЧЫРА ВІТАЕ
ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА Й СЯСТРЫЦТВА САБОРУ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

*УПРАВА ФУНДАЦЫІ ЙМЯ ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА*
*ШЧЫРА ВІТАЕ ЎСІХ СВАІХ СЯБРОЎ І АХВЯРАДАЎЦАЎ*
*І ЖАДАЕ ІМ*
*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ і ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!*

ЗАПРОСІНЫ

У нядзелю, 7-га студзеня 1979-га г. Парафія БАПЦ ў Брукліне ладзіць *ВЯЛІКІ КАЛЯДНЫ АБЕД,* на які ветліва запрошвае Вас з сямьёю, усіх парафіянаў, іхніх знаёмых, ды ўсіх беларусаў Вялікага Ню Ёрку. Падчас абеду адбудзецца Дзіцячая Калядная Акадэмія (ялінка).

Урачыстая Божая Служба пачнецца, а гадзіне 10-й раніцы ў Катэдральным Саборы й будзе ачолена Мітр. Прт. Васілём Кэндышам у саслужэньні а. Др. Расьціслава. Абед і Дзіцячая Акадэмія пачнуцца адразу па заканчэньні Службы Божай у царкоўнай салі.

*– Мітр. Прт. Васіль Кэндыш, а. Др. Расьціслаў Войтэнка, Парафіяльная Рада, Сястрыцтва Парафіі*

ЗАПРОСІНЫ